© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020


# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 51 (1649) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 20 СНЕЖНЯ 1987 г. ЦАНА 12 зл.


70

## МЫ З БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

### СТАРШЫНЯ

Аляксей Рошчанка нарадзіўся 20 мая 1890 г. у сялянскай сям'і ў Дашах, сённяшняй Кляшчэлеўскай гміны. Закончыў 4 класы прыхадской школы, гаспадарыў. Падчас І сусветнай вайны яго мабілізавалі ў царскую армію. Служыў ён у 710 Макараўскім запасным палку. Пасля быў дэмабілізаваны, працаваў сталеліцейшчыкам у Ліпецку. У верасні 1918 г. дабравольцам уступіў у Чырвоную Гвардыю, змагаўся на Паўднёвым і Каспійска-Каўказскім франтах. У 1918 г. уступіў у Расійскую камуністычную партыю (бальшавікоў), як камуніст — заўсёды першы ішоў у атаку.

На радзіму А. Рошчанка вярнуўся ў 1922 г. нелегальна, праз



„зялёную" граніцу. Яго арыштавалі і 6 тыдняў трымалі ў турме ў Бельску-Падляшскім. Доўгі час А. Рошчанка знаходзіўся пад наглядам паліцыі, але ўсё ж ухітрыўся актыўна ўдзельнічаць у падпольным рэвалюцыйным руху: у 1923-1938 гадах ён быў членам Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі. Пры Савецкай уладзе ў гадах 1940--41 яго выбралі старшынёй сельсавета ў Чаромсе. Падчас гітлераўскай акупацыі быў ён партызанскім сувязным.

Пасля вызвалення, у самы цяжкі і небяспечны час у 1944 годзе А. Рошчанка ўступае ў Польскую рабочую партыю, удзельнічае ў працы па ўмацаванні народнай улады на Бельшчыне і Сямяціччыне, затым ён — член ПАРП.

Урад Народнай Польшчы адзначыў А. Рошчанку высокімі ўзнагародамі, а Прэзідыум Вярхоўнага Савета СССР прызнаў яму Ордэн Чырвонай Зоркі.

**Б. Нікіцюк**



**Сямяцічы, вул. Святаянская. Мал. У. Петрука.**





Дзень быў халаднаваты, мокры снег клеіўся да твараў, пад нагамі хлюпацела растаптанае балота. У Бельску, аднак, адчуваўся прыўзняты, урачысты настрой. Гэтага дня Бельск-Падляшскі чакаў звыш сарака гадоў — ад заканчэння гітлераўскай акупацыі.

*„Сённяшні дзень запішам мы ў гісторыі нашага горада як адзін з важнейшых дзён, ён створыць лепшыя ўмовы для падарожнікаў нашага горада і ўсяго раёна..."*

Так гаварыў Лявонцій Парафінюк — цяперашні начальнік Гарадской управы.

Быў гэта панядзелак, 23 лістапада 1987 года. У прысутнасці шматлікіх прадстаўнікоў ваяводскіх і цэнтральных улад, сярод якіх былі: першы сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку і пасол у Сейм — Уладзімір Каладзеюк, віцэ-ваявода Аляксандр Чуж, а таксама галоўны дырэктар Цэнтральнай акруговай дырэкцыі дзяржаўнай чыгункі — Рышард Альшэўскі, які, дарэчы, родам з Бранска пад Бельскам. У прысутнасці гасцей і масава прыбыўшых гараджан, рабочых, працаўнікоў розных устаноў, вучняў і прыгодных наглядальнікаў, **быў урачыста пакладзены ў фундамент акт заснавання новага будынка для вакзала Польскай дзяржаўнай чыгункі і Польскай аўтобуснай камунікацыі ў Бельску-Падляшскім.**

Выгляд даўнейшага вакзала вядомы ўжо толькі па захаваных фатаграфіях, якія можна пабачыць на выстаўцы, наладжанай з гэтай нагоды ў Гарадской управе. Гэты вакзал прастаяў у Бельску-Падляшскім каля 100 гадоў. Падобны вакзал, хаця шмат меншы, захаваўся яшчэ з таго часу на станцыі ў Кляшчэлях. Царскія будаўнікі чыгункі Седльцы — Беласток будавалі салідна.

— Мой дзед перадаваў нам успаміны свайго дзеда, — кажа цяперашні начальнік бельскай чыгуначнай станцыі, магістр інжынер Аляксей Рошчанка родам з Кляшчэляў, — што каб пабачыць першы цягнік, які людзі называлі д'ябальскай вогненнай машынай, дык уплазілі яны на стрэхі сваіх дамоў і клуняў.

З Кляшчэляў паходзіць таксама другі чыгуначнік, інжынер і музыкант Міхаіл Артышэвіч, вядомы саліст Шурбаковага ансамбля царкоўнай музыкі і шматгадовы інструктар многіх самадзейных беларускіх калектываў на Беласточчыне. Бельская чыгуначная станцыя якраз падпарадкавана яму па службе і ўрачыстая закладка краевугольнага каменя пад новы вакзал не магла, вядома, адбыцца без яго. Тым болей, што М. Артышэвіч знаходзіўся ў ліку тых людзей, якія шмат гадоў змагаліся за пабудову сапраўднага вакзала ў Бельску.

— Тут па-суседску, — кажа начальнік бельскай станцыі Аляксей Рошчанка, — жыве яшчэ адзін чалавек...

— Ён пасля вайны таксама служыў на чыгунцы, быў кандуктарам, — дадаў Міхась Артышэвіч.

— Дык гэты чалавек, мабыць, бачыў, як немцы ўзрывалі даўнейшы вакзальны будынак. Здарылася гэта ў апошнюю хвіліну, 30 ліпеня 1944 года. Нават гэты фашысцкі салдат не паспеў ужо ўцячы. Дагнала яго куля ці асколак снарада вызваліцеляў, салдат II Фронту Чырвонай Арміі.

*„Пабудову вакзала, — адзначаецца ва ўрачыстым закладчым акце, — распачалі 5 кастрычніка 1987 года на аснове пагаднення, падпісанага 12 чэрвеня 1987 года паміж дырэктарам Цэнтральнай акружной дырэкцыі дзяржаўнай чыгункі, дырэктарам краёвай дзяржаўнай аўтобуснай камунікацыі і начальнікам горада Бельска-Падляшскага.*

*Кубатура будынка — 13017 м³.*
*Забудаваная плошча — 1447 м².*
*Колькасць касаў: тры касы для продажу білетаў на праезд чы-*

**(Працяг на стар. 7)**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# АДКАЗ НА АПЫТАЛЬНІК

(У скарачэнні)

**Чытачам „Нівы“, асабліва тым, якія далі адказы на апытальнік у справе працы яе рэдакцыі з 24 мая гэтага года, належыцца паведамленне, што зроблены аналіз зместу стаў асновай дыскусіі на апошнім пленуме ГП БГКТ (22.XI.86 г.).**

Атрымана 174 адказы, у тым ліку 102 — ад моладзі да 25 год жыцця і 72 — ад старэйшых чытачоў. Сярод удзельнікаў было 82 вучні сярэдніх школ, 56 гараджан вельмі розных прафесій і 38 жыхароў вёсак, у тым ліку ўсяго 6 сялян.

Адказаў было: з Бельшчыны — 50%, з Гайнаўшчыны — 19%, з Беластока 12%, з Сакольшчыны (разам з Дуброўшчынай) — 11%, з былога Беластоцкага павета — 2%, з Варшавы — 0,5% і па адным з Сопата, Калабжэга, Сядлісак каля Гіжыцка, БССР і ЗША. Тры адказы маюць апісальны характар.

На 1 пытанне адказана, што „Ніву“ купляе 53 асобы, выпісвае 96 асоб, атрымлівае ва ўстановах 11 асоб, і не дало адказу 14 асоб. Вынікае з гэтага, што 56 бяручых удзел у анкеце складаюць падпісчыкі і што яны найбольш цікавяцца сваёй газетай.

На 2 пытанне: што „Ніву“ чытае рэдка, — адказала 37 асоб, чытае кожны нумар — 131 асоба (усе яны настаўнікі беларускай мовы пачатковых школ), не чытае — усяго 3 асобы, але цікавіцца яе зместам таксама 3 асобы. Можна зрабіць такі вывад, што тыя, хто хоць адзін раз зацікавіўся „Нівай“, у 80% становяцца яе сталымі чытачамі. Паколькі іх мала, значыць, дрэнна ўсе мы папулярызуем сваю газету.

На 3 пытанне, якое характарызавала актыўнасць у беларускім асяроддзі і ў нейкай ступені нават прыдатнасць рэдактараў „Нівы“, трэба было адказаць: каго з рэдакцыі „Нівы“ ведаеце асабіста, ведаеце з напісанага ім, з кім сустракаліся або каму аказалі дапамогу ў збіранні матэрыялаў. У цэлым найбольш вядомы сярод чытачоў „Нівы“ Аляксандр Баршчэўскі, які не працуе ў рэдакцыі „Нівы“, — 95 адказаў, затым Міхась Хмялеўскі — 86 і Віктар Рудчык — 69. Інакш у паасобных пунктах. Ведае асабіста найбольш Міхася Хмялеўскага — 62 асобы, Мікалая Гайдука — 32, Веру Валкавыцкую — 23 асобы, Віктара Шведа і Міхася Шаховіча — па адной асобе.

Але з напісанага ведае: Аляксандра Баршчэўскага — 36 асоб, Віктара Рудчыка — 26 і Лёніка Тарасэвіча — 20 асоб. Сустракаліся або аказалі дапамогу ў збіранні матэрыялаў: Аляксандру Баршчэўскаму — 48 асоб, Віктару Рудчыку — 22, Сакрату Яновічу і Міхасю Хмялеўскаму — па 16 асоб. З тых жа дадзеных вынікае, што Міхася Хмялеўскага ведае вельмі многа асабіста — 62 асобы, але з напісанага ў „Ніве“ — толькі 8 асоб, а Віктара Рудчыка ведае 22, з з напісанага — 26 асоб, Сакрата Яновіча з напісанага — усяго 4 асобы, а Лёніка Тарасэвіча — 20 асоб. Гэта вельмі крытычная ацэнка. Апытальнік, хоць здамінаваны моладдзю, адлюстроўвае дзейнасць асобных працаўнікоў „Нівы“ і часткова карэспандэнтаў. Здаецца, што ў многіх адказах паблытаны катэгорыі гэтых людзей, але ў адносінах толькі да пісьменнікаў і мастакоў.

У 4 пытанні трэба было выказацца, які з раздзелаў „Нівы“ яе чытачам падабаецца: „На мяжы“, „Весткі з БССР“, „Адгалоскі“, „Фальклор“, „Сардэчныя тайны“, „Што-дзе-калі“, „Ніўка“ або іншыя. Найбольш прыхільнікаў меў „Фальклор“ — 94 асобы, „Сардэчныя тайны“ і „Ніўка“ — па 80 асоб, „Весткі з БССР“ — 48, „Што-дзе-калі“ — 20 асоб. У трох апытальніках не было адказаў, а сярод іншых падабаюцца „Прысутнасць“ — 16 асоб, „Белавежа“, „Зорка“ і „Шляхам гадоў“ — па 5 асоб. Былі таксама адзінкавыя выказванні. Некалькім вучням падабаюцца толькі „Сардэчныя тайны“, а некалькім студэнтам — толькі „Прысутнасць“. У трох жа апытальніках чытачам падабаецца ўсё.

## ЧЫТАЧЫ ПРА „НІВУ“

На пытанне 5: як ацэньваеце літаратурную старонку „Белавежа“, — адказалі, што:

паэзію: вельмі добра — 39 асоб, добра — 81, пасрэдна — 37, дрэнна — 1, без ацэнкі — 15 асоб;

прозу: вельмі добра — 38 асоб, добра — 94, пасрэдна — 24, дрэнна — 0, без ацэнкі — 17 асоб.

Прывядзем найбольш цікавыя адказы на пытанне, чаму.

17—25-годкі адказалі: чытаючы беларускія творы, я цэлай душой жыву Беларуссю; „Ніва“ адлюстроўвае жыццё беларусаў; кранае праблемы сучаснай моладзі; змяшчае творы, якіх няма ў іншых выданнях; высокі ўзровень; выкарыстоўваем на лекцыях беларускай мовы; крыху замала прозы; нічога асаблівага там няма; некаторыя вершы для мяне зусім незразумелыя.

26-годкі і старэйшыя адказалі: творы прываблiваюць непасрэднасцю, адметнасцю і самабытнасцю; у прозе мала праблемаў; паэзія мала паэтычная, мала жару; проза ніякая.

Адказы шчырыя, супярэчлівыя, глыбокія, заслугоўваючыя ўвагі „белавежцаў“.

Пытанне 6: „Зорку“ вашы дзеці чытаюць ахвотна — 72 адказы, у тым ліку ізноў усе спомненыя настаўнікі; не чытаюць — 28 адказаў, устрымалася ад выказванняў — 74 асобы (з частай дапіскай: яшчэ не маю). На другую частку пытання: хацелі б больш казак — 66 адказаў, адгаданак — 40, апавяданняў — 35, ілюстрацый — 26 і паэзіі — усяго 3 адказы. Паэзія для дзяцей у „Зорцы“ ўсё ж, бадай, мала атракцыйная.

На пытанне 7: якія артыкулы з „Нівы“ вам запамяталіся найбольш, — выказалася 135 асоб (звыш 80%) і 39 не дало адказу.

На першым месцы — 40 выказванняў — ізноў апынуўся фальклор і артыкулы аб нацыянальнай свядомасці з указаннем на Аляксандра Баршчэўскага, на другім месцы — каля 20 — тэматыка ваенная і партызанская Віктара Рудчыка, па 10 выказванняў атрымалі „Шляхам гадоў“ — Мікалая Гайдука і „Прысутнасць“. Зблiжаныя лікі атрымалі розныя артыкулы Міхася Хмялеўскага (аб людзях) і Сакрата Яновіча. Упамінаюцца: паэзія літаратурнай старонкі „Белавежа“, беларускія песні, крытычныя артыкулы карэспандэнтаў і весткі з БССР. У адным адказе ёсць сцвярджэнне: „Няма такога, які б глыбока астаўся ў памяці“. Балючае сцвярджэнне, а можа проста чалавек не мае добрай памяці.

На пытанне 8: ці чытаеце ўсю „Ніву“, — адказала „так“ — 35 чалавек, толькі цікавячыя вас раздзелы —

**(Працяг на стар. 4)**




## АБ „ПІСЬМЕ БЕЛАРУСКАГА НАРОДА ВЯЛІКАМУ СТАЛІНУ”

**У** 1941 годзе ў маёй школе запанавала дурацкая мода. Усе вучні пачалі раптоўна ўзбройвацца. Рабілі пісталеты са шпулек ад нітак. Такі „пісталет“ рабіўся вельмі хутка. Трэба было ўставіць у дзірачку палачку, на палачку надзець гумку. Гумку прывязаць да шпулечкі — і „пісталет“ быў гатовы. Палачка была крышачку карацейшая, чым шпулька. Справа ў тым, што ў дзірачку закладалася „куля“-гарошына. Палачку трэба было максімальна адкінуць назад і раптоўна яе выпусціць з пальцам. Так выстраленая гарошына ляцела метраў 8-10. І вось з такіх „пісталетаў“ лупілі мы па сценах. У часе аднаго перапынку я з Пецем Бурам выстраліў у бок сцяны. Адна гарошына трапіла ў партрэт Сталіна. Якраз у гэты момант увайшла ў клас настаўніца і схапіла нас з Пецем за шыварат.

— Як вы смелі страляць у вялікага Сталіна?! — крыкнула настаўніца.

— Я не хацеў, — заікнуўся я.

— Не хацеў, але трапіў?

— Хіба трапіў.

Трэба сказаць, што Пеця Бура, які лічыўся ў нашым класе вялікай балдою, вышаў з сітуацыі намнога разумней, чым я. Заявіў ён, што страляў у муху, і што яго гарошына ў партрэт не трапіла. Мне здавалася, што ўсё здарэнне закончылася палаянкай настаўніцы. Але прайшло тры, можа чатыры дні — і мяне выклікалі з заняткаў у канцылярыю школы. Сядзеў там афіцэр. Я яго ведаў, бо некалькі тыдняў назад ён аштрафаваў бацьку за тое, што перад хатай не было бочкі з вадой. Пасля мне бацька гаварыў, што афіцэр гэты сеў пры стале і пачаў у блакнот упісваць розныя дадзеныя аб нашай сям'і. Калі дайшоў да пытання „Сколько штук рогатого скота?“ і пачуў адказ: „Тры“, раптоўна павярнуўся да бацькі тварам і сказаў: „Кулацкое отродье“! І вось гэты афіцэр сядзеў перада мною, а перад ім на стале ляжаў разложаны блакноцік.

— Где твоя пушка? — спытаў нечакана афіцэр.

— Якая пушка? — спытаў я, бо не разумеў, аб чым пытае афіцэр.

— Та, из которой ты стрелял.

Я зразумеў, аб чым ідзе гутарка, і адказаў, што мой „пісталет“ дома.

— Иди и принеси! — загадаў афіцэр.

Я стрымгалова кінуўся з канцылярыі і мінут праз дзесяць ужо стаяў перад афіцэрам і трымаў у руках сваю „зброю“. Афіцэр дакладна яе агледзеў і спытаў:

— А патроны у тебя есть?

Я парыўся ў кішэнях і знайшоў некалькі гарошын.

— Ну, возьми и пали!

Я прылажыў гарошыну і пачаў разглядацца па сценах.

— Портрет Сталина висит там! — сказаў афіцэр. — Стреляй!

— У партрэт страляць не буду, я шукаю муху.

— Но ведь ты по портрету уже стрелял!

І тут я запнуўся поўнасцю. Ніяк не ведаў, што маю сказаць афіцэру. У гэтым часе афіцэр нешта запісаў у свой блакноцік.

— Ну, ты знаеш советские песни?

— Знаю.

— Какие?

— Широка страна моя родная“, „Если завтра война“, „Три танкиста, три весёлых друга“, „По военной дороге“, „Катюша“.

— Ну, хорошо, спой „Если завтра война“.

І я заспяваў:

„Если завтра война, если завтра в поход,  
Если тёмная сила нагрянет,  
Как один человек, весь советский народ  
За свободную родину станет.  
На земле, в небесах и на море  
Наш напев и могуч и суров.  
Если завтра война, если завтра в поход,  
Будь сегодня к походу готов!“

— Я не страляў у партрэт, я страляў у муху, — упёрся я і, заўважыўшы муху, выстраліў. Праз момант гарошына адскочыла ад сцяны і ўпала перад афіцэрам на стол.

Афіцэр момант падумаў і спытаў:

— Скажы, почему в твоей семье говорят, что советская власть плохая?

— У маёй сям'і гавораць, што савецкая ўлада добрая.

— А почему она хорошая?

— Таму, што няма паноў, што можна бясплатна вучыцца і што, як вырасту, дык змагу быць афіцэрам.

— А кто так говорит?

— Так гаворыць мой татка.

— А твой татка тоже был офицером?

— Не, мой татка быў салдатам.

— А почему он служил Пилсудскому?

— Мой татка служыў не Пілсудскаму, а цару.

— Ну, а советской власти он служил?

— Служыў, ахраняў жалезную дарогу ў Маскве.

— А почему он вернулся в панскую Польшу?

Афіцэр выслухаў мяне да канца, пасля загадаў мне заспяваць „По военной дороге“. І гэтую песню праспяваў я беспамылкова.

— Ну а скажи мне, где ты эти песенки выучил?

— У школе.

— А дома эти песенки поешь?

— Спяваю.

— А с кем поешь?

— Спяваю з сёстрамі.

— А твой отец поет эти песенки?

— Не, не спявае.

Афіцэр нешта хуценька запісаў у блакноце і спытаў:

— А какие ты знаеш произведения, посвящённые Сталину?

І тут, што называецца, мне пашанцавала. Якраз у гэтым часе мы ў школе вывучалі на памяць „Пісьмо беларускага народа вялікаму Сталіну“. На маю долю выпала аж сорак строф гэтага твора. Я выпраставаўся і заявіў, што ведаю 160 радкоў „Письма“.

— Ну, так раскажи, если знаешь!

І тут я панёс ва ўсю, і калі закончыў:

„Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход,  
Аб Сталіне песню спявай,  
Спявай беларускі народ!“,

афіцэр сядзеў даўжэйшы час нерухома, урэшце спытаў:

— А где ты учил это произведение, в школе?

— Ну, вучыўся ў хаце.

— А тебе там никто не протестовал?

Я зразумеў, што слова „протестовать“ абазначае „памагаць“ і адказаў:

— Протестовали сёстры і татка.

Афіцэр хуценька запісаў нешта ў блакноце і спытаў:

— А как они протестовали?

— Калі я гаварыў верш на памяць і збіўся або забыў, то яны глядзелі ў кніжку і падказвалі мне, як трэба гаварыць.

— Так они тебе помогали, а не протестовали.

— Ну, памагалі.

— Так почему, балбес, говориш, что протестовали?

— Я думаў, што працеставаць абазначае памагаць.

— По-дурацки думал!

Афіцэр нейкую хвіліну думаў і на яго твары рысавалася незадаволенасць. У канцы алоўкам пакрэсліў усё напісанае ў блакноце і сказаў:

— Во-первых, заруби на носу, балбес, что по портрету вождя стрелять строго воспрещается! Во-вторых, свою пукалку уничтожь, чтобы от неё не осталось следа! Во-третьих, знай, что спасло тебя произведение о Великом Сталине!

І гэтым усё скончылася. Гаворачы шчыра, дык я зразумеў толькі „Во-первых“ і „Во-вторых“. „Во-третьих“ я не разумеў. Калі прызнацца, дык „Во-третьих“ я поўнасцю зразумеў толькі ў канцы пяцідзесятых гадоў, калі прачытаў некалькі апавяданняў Алеся Пальчэўскага. У адным з гэтых апавяданняў Пальчэўскі расказваў аб адзінаццацігадовым хлапчуку-вязню, які быў арыштаваны за нейкія палітычныя правіны. А мне ў 1941 годзе было таксама 11 гадоў.

І таму да сёння, калі вяртаюся думкамі да гэтай справы, у маім сэрцы ўзнімаецца хваля ўдзячнасці да беларускіх паэтаў, аўтараў славутага „Пісьма беларускага народа Вялікаму Сталіну“ і ў такіх момантах я падспеўваю сабе:

„Ці сонейка захад, ці сонейка ўсход,  
Аб Сталіне песню спявай,  
Спявай беларускі народ!“

**Алесь Барскі**



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 2)

# АДКАЗ НА АПЫТАЛЬНІК

133, у тым ліку 83 адказы моладзі да 25 год жыцця, і 6 асоб не дало адказу. Сапраўды, вучням сярэдніх школ і студэнтам газета прысвячае мала месца.

У пытанні 9 чытачы мелі выказацца, якія артыкулы ў „Ніве" ім не спадабаліся. Ад адказаў устрымалася, паставіла рысачку, або напісала „няма такіх" — 117 чалавек (каля 70%). Гэта ўжо вялікае дасягненне рэдакцыі газеты. Астатнія 30 асоб унеслі заўвагі. Найбольш іх накіравана, найчасцей не называючы прозвішчаў, Аляксандру Баршчэўскаму за артыкулы „Аб сабацы", „Аб цэпе", „Курцы", аб Б. Тарашкевічу, тры аб фальклоры і адзін аб усёй яго літаратурна-паэтычнай творчасці і нават публіцыстыцы. Па тры адмоўныя выказванні атрымана аб артыкулах „Шляхам гадоў" Мікалая Гайдука, „Вестках з БССР" і „Сардэчных тайнах" і па два выказванні — „Буг у агні" Віктара Рудчыка (у адным ёсць дапіска: „Іншыя пісалі цікавей") і артыкулах карэспандэнтаў Мікалая Панфілюка. Адзінкавыя заўвагі датычылі такіх артыкулаў, як „Свята беларускай песні" Веры Валкавыцкай, артыкулаў Міхася Хмялеўскага, цэлай „Зоркі" з дапіскай: „Гістарычныя артыкулы перанесці ў „Ніву" для ўсіх чытачоў". У адказах трох асоб не падабаюцца Бадай упершыню больш чым у вы".

Бадай упершыню больш чым у трыццацігадовай дзейнасці „Нівы" пастаўлены былі ў апытальніку праблемы шырэйшага яе ўздзеяння на свядомасць чытачоў. Атрыманыя адказы, з аднаго боку, сведчаць аб іх трапнасці, а, з другога, аб здзіўляючай глыбіні пенетрацыі псіхікі чалавека блізкім яму часопісам.

На першы зварот 10 пытання: ці „Ніва" ўзбагаціла вашы веды, — адказала станоўча 95 асоб (г.зн. 56% бяручых удзел). На другі зварот таго ж пытання: ці навучыла чытаць па-беларуску, — 53 асобы (г.зн. трэцяя частка ўсіх), а рэшта, бадай, вучылася на лекцыях беларускай мовы ў пачатковых школах. На трэці зварот 10 пытання: ці ўзбудзіла „Ніва" нацыянальную свядомасць, — 62 асобы (г.зн. 36%). На чацверты зварот таго ж пытання: ці „Ніва" выклікала зацікаўленне беларускай праблематыкай у вашым асяроддзі, — адказала станоўча 66 асоб (г.зн. 40%). Аб неаказванні ніякага ўздзеяння на чытача гаворыць усяго 6 асоб, а зусім не дало адказу 12.

На 11 пытанне: ці падабаецца графіка „Нівы", — „так" адказала 90 асоб, „не" — 71 асоба і 13 — устрымалася. Найбольш станоўчай характарыстыкай лічу заўвагу: „сваёй цеснай сувяззю з жыццём народа, яго побытам", а да найбольш адмоўных: невыразныя здымкі, брак колераў, дрэнная папера, дзе-недзе прымітыўная графіка, мала беларускіх арнаментаў.

Урэшце на пытанне 12: што трэба зрабіць, каб „Ніва" выклікала шырэйшае зацікаўленне, — адказы дало 145 асоб (29 устрымалася). Вось некалькі з іх: больш пісаць аб моладзі, аб пісьменніках, больш вестак з БССР, аб гісторыі Беласточчыны, больш беларускіх песень, увесці каляровую графіку, больш аб мясцовых людзях, казак, загадак, аб слаўных людзях Падляшша, зменах і традыцыях на вёсцы, аб мясцовых дыялектах, пісаць на іх, аб музыцы, больш ілюстрацый, лацінскім алфавітам (тры выказванні), больш фальклору, цікавей пісаць артыкулы, больш сучасных апавяданняў, увесці вучнёўскую старонку, больш пісем ад чытачоў, лепшы гумар, шырэй аб сучасным жыцці беларускага народа, прыгажэй афармляць загалоўкі, палепшыць знешні выгляд, больш парадаў, змяніць частку рэдактараў, якія нічога ўжо не пішуць, цікавей рэдагаваць, выкінуць афіцыяльшчыну, прыняць у рэдакцыю яшчэ тры Міры Лукшы, змяшчаць матэрыялы па гісторыі Беларусі, якія не атрымалі шырокага асвятлення ў БССР.

(Працяг на стар. 5)

# Янка Брыль у Беластоку

Нядаўна ў Польшчы прабываў вядомы, слаўны на Беларусі і па-за яе межамі народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Гэта адзін са старэйшых беларускіх пісьменнікаў, аб багатым творчым шляху якога нядаўна пісала наша „Ніва" ў сувязі з яго 70-гадовым юбілеем („Ніва", № 38 ад 20 верасня 1987 г.) Цяпер Я. Брыль прыязджаў у Польшчу як лаўрэат літаратурнай узнагароды імя Уладзіміра Петшака з 1970 года на юбілей 40-годдзя прызнавання ПАКСам гэтай узнагароды.

У Беластоку Я. Брыль прабываў толькі некалькі гадзін, меў запланаваную тут сустрэчу з чытачамі ў беластоцкім аддзяленні ПАКС. І, нягледзячы на перагружанасць і празмерную занятасць у час пабыўкі ў Польшчы, пісьменнік пажадаў сустрэцца з журналістамі „Нівы" і актывам БГКТ. Мы шчыра і ад усяго сэрца ўдзячны шаноўнаму госцю за выгаспадараваныя хвіліны, праведзеныя з намі. Беларусы ў Польшчы вельмі цікавяцца ўсім тым, што цяпер адбываецца ў Савецкім Саюзе і на Беларусі, чым жыве народ і пісьменніцкае асяроддзе, якія навінкі паявіліся ў літаратуры і ў якім напрамку яна ідзе.



Янка Брыль у шчырай размове з „ніваўцамі".

Пісьменнік гаварыў з намі вельмі непасрэдна, па-сяброўску. Расказваў аб свежавыдадзеных кнігах і аб тых, якія яшчэ рыхтуюцца да друку, а Я. Брыль, або яго блізкія таварышы па пяру прымаюць удзел у іх падрыхтоўцы. Госць прыгадаў аб вялікім укладзе Саюза пісьменнікаў Беларусі ў павышэнне рангу навучання роднай мовы ў Беларусі і наогул аб выхаванні моладзі ў яе прывязанасці да роднага, бацькоўскага, беларускага.

Журналісты закідалі госця пытаннямі: напрыклад, калі выйдзе ў свет шматтомнае выданне твораў Уладзіміра Караткевіча, над чым працуе цяпер сам Я. Брыль і іншыя яго калегі, якіх новых кніжак можам спадзявацца ў бліжэйшы час. Цікавіла нас таксама, што думаюць на Беларусі і пра нашу газету, ці яе чытаюць, ці ёсць магчымасць навязаць больш цесныя кантакты з рэдакцыямі падобных па профілю газет на Беларусі. Старшыня грамадскага камітэта пабудовы беларускага музея ў Гайнаўцы выкарыстаў нагоду, каб расказаць госцю пра старанні нашага грамадства (уклад працы і грошай) у гэтую ганаровую для беларусаў справу — пабудову Беларускага музея.

Шмат з таго, аб чым расказваў пісьменнік, і яго адказы на нашыя пытанні, чытачы змогуць прачытаць у наступным нумары „Нівы", дзе пісьменнік дае інтэрв'ю Алесю Барскаму.

На заканчэнне сустрэчы Янка Брыль падпісваў свае кнігі нашым журналістам, сам атрымаў у падарунку некалькі выданняў Беларускага таварыства, а пачынаючы пісьменнік Васіль Петручук асабіста ўручыў яму сваю першую, але доўга выношаную кнігу „Пожня".

Сустрэчы з госцьмі з Беларусі ў нашым асяроддзі — гэта вельмі пажаданае, чаканае здарэнне, гэта падзея, якая дадае нам сіл, упэўненасці і ахвоты ў далейшай працы на беларускай ніве.

**Яніна Чэрнякевіч**
Фота аўтара

## ЯНКА БРЫЛЬ

— ✲ —

*Мае найранейшыя творы не засталіся, не выжылі. Але ж дагэтуль засталася ў памяці радасць працы над імі.*

*Часамі нават нібы ўспамінаецца, што вось было ў мяне... здаецца, вельмі маленькае, ды вельмі ж ёмкае, светлае апавяданне, якое дало мне вялікую радасць стварэння, дало надзею, упэўненасць, што буду пісаць. Дало, а само кудысьці прапала... Дый невядома, ці наогул было. Хоць радасць тая і ўспамінаецца як сапраўдная.*

*Былі ў тым апавяданні нейкія вельмі скупыя і яркія, вельмі трапныя і каштоўныя словы, куды дакладнейшыя і значнейшыя за тыя, якія ёсць у маіх ранніх надрукаваных творах. Былі? А можа не было? Можа і не... Я памятаю іх як у шчаслівым, але невыразным сне, дзе тыя словы — больш музыка, чым жывапіс. І гэтая музыка — мая першая радасць авалодванне словам, не толькі была тады, але, як вясёлае, чыстае рэха, паўтараецца часта і сёння.*

*Толькі ж ці часта?*

*Каб жа часцей!..*

— ✲ —

*Людзі цяжкай працы, якія жывуць у прыродзе, гавораць не толькі „хочацца жыць", але ж і „трэба жыць".*

*Не плач, не гаруй па свайму, па сваёй, каго ты страціў ці страціла, — табе* **трэба жыць.**

*Ёсць і ў мяне такое адчуванне. Відаць, недарма я пражыў у прыродзе, у цяжкой фізічнай працы маленства і маладосць. Адтуль яны, гэтыя думкі. Хоць і шмат у мяне, як Прышвін каža, было адхіленняў ад правільных чалавечых паводзін.*

*Падумаў гэта, гледзячы на сыта-зялёны, паліты адвячоркавым сонцам агарод, на яблыні, мужнага ўзросту каштан каля хаты, а за гародам-садам — на сцяну лісцянога лесу.*

*Мы сюды з сябрам прыехалі ў хату яго́ных бацькоў, пасля вялікай, нялёгкай у спёку дарогі нам тут добра адчуць халадок, цішыню, апусціцца ў самога сябе, супакоіцца.*

*Свеце родны! Маіх ужо многіх няма, а мне яшчэ ўсё трэба жыць, трэба рабіць сваё.*

*З кнігі „Вітраж"*

## ДЗЕЦІ З КАРАКУЛІНА

Цягнік шчасліва вырваўся з вогненнай зоны. Дзеці, аднак, яшчэ доўга не маглі супакоіцца. Перажывалі неймаверную бамбёжку Мінска. Першы раз у іх небагатым жыцці здарылася ім сутыкнуцца з гэтакім жахам.

А тут яшчэ недзе прапаў Самуіл Маркавіч Пеўзнер, іх апякун.

Стала ясна, што родны дом застаецца ўсё далей і далей. Магчыма, што Самуіл Маркавіч проста хлусіў і таму рашыў далей ужо не ехаць на ўсход...

— Толькі пасля мы даведаліся, — гаворыць мне Рамуальд Зайкоўскі, — што ў сапраўднасці справа выглядала цалкам інакш. У Мінск прыбылі мы зранку. Гэта я добра памятаю. Была можа дзевятая, а можа дзесятая гадзіна. Страшэнна хацелася есці і піць. Асабліва піць. То ж ужо каторы дзень жылі мы без варанай стравы. У нас у запасе знаходзіліся сухія харчы, нават цэлыя кумпякі, якія загадаў нам валачы з Друскенікаў Самуіл Маркавіч, быў цукар, але не хапала хлеба. Вось тады мы пераканаліся, што найлепшыя ласункі нічога не варты, калі няма звычайнага хлеба. І Самуіл Маркавіч рашыў арганізаваць нам нейкую вараную страву, каб мы хаця крыху пад'елі на мес-




цы і запасліся хлебам на дарогу. Ён адразу накіраваўся ў горад, каб адшукаць там адпаведныя асветныя ўлады. То ж знаходзіліся мы, як ні гаварыць, у сталіцы рэспублікі. Дык дзе ж шукаць нам дапамогі, калі не тут! І раптам гэтая змасіраваная бамбёжка Мінска! На нашых вачах горад ператвараўся ў руіну. Хто ж тады мог займацца сотняй ці двума сотнямі нейкіх беластоцкіх дзяцей?! Каб выратаваць нас ад бяды, наш эшалон проста чым хутчэй адправілі ў далейшую дарогу. Самуіл Маркавіч так і застаўся ў Мінску. Нас, аднак, не пакінуў. Толькі яму вядомым спосабам выпрасіў у чыгуначнага начальства нейкі паравоз і на гэтым паравозе паімчаўся ўслед за намі. І дагнаў нас. Цяжка мне цяпер сказаць ці ў Оршы, ці ўжо ў Смаленску, але наш апякун зноў паявіўся між намі. Высокі, з чорнымі, кучаравымі валасамі, спакойны, ахвочы, каб памагчы кожнаму з нас хаця б добрым словам...

А дзеці, збітыя ў цесным і цвёрдым вагоне, вельмі ж патрабавалі гэтай дапамогі, добрага і спачувальнага слова.

— Самуіл Маркавіч быў тады для нас адзіным блізкім чалавекам, — сцвярджае Генрык Мальцка, якому знаёмая жанчына, спатканая выпадкова на станцыі ў Оршы, сказала, што яго бацькі загінулі ў час бамбёжкі Беластока.



© PDF: Kamunikat.org 2020
© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# СЯБРЫНА

## РАЗМОВА З ЯНКАМ ЯРМОЛІКАМ

**Міра:** Калі нехта хоча нешта пераказаць Пятру...

**Пятро Ц.:** Напрыклад пытанне: „Ці забыўся ты пра сваіх добрых сяброў" ці катэгарычны загад: „Прыязджай раз-два, мусім падвезці Андрэя... ў Іспанію..."

**М.:** Таму, што ў Пятра яшчэ няма свайго тэлефона, а суседзі дзверы ў дзверы, у якіх ёсць свае тэлефоны, знаёмы толькі „на дзень добры" — найлепш пазваніць пару лесвічных клетак далей, прасіць Янку ці Геніка-юньёра. Ці дождж, ці мяцеліца, Янка скідае шлёпанцы, уступаецца ў калошы і прэ да сябра. Ага, Янка, той Генік — маладзейшы, твой блізнюк, сапраўды такі падобны на цябе, як гавораць, як дзве кропелькі вады! І з характару — таксама?

**Янка:** Ён больш кансерватыўны, у яго ёсць ужо свая жонка.

**М.:** У цябе жонкі яшчэ няма, таму, напэўна, таксама дастанеш фуру лістоў, як Геня Павільч, пасля публікацыі ў „Сябрыне", з цэлага свету. Жаль, што няма ў нас тваёй фатаграфіі, таму што ты, Янка, выглядаеш даволі імпазантна.

**Я.:** Апошні здымак у мяне з... восьмага класа!

**М.:** Табе ўжо 23 гады? Што ты робіш у жыцці?

**Я.:** Не, мне яшчэ 22. У жыцці я працую ў МПК слесарам. Не вельмі, каб працавалася — заробкі малыя, у сярэднім 20 тысяч.

**М.:** Ой, нямнога... у мяне так, пасля дваццаці гадоў школьнай адукацыі. Даўгі пааддаю, і мала застаецца на чорны хлеб. Мяса я даўно адмовілася есці, хочаш маю картачку?

**П.:** Чорны хлеб здорава есці...

**Я.:** У мяне таксама мала застаецца. Грошы выдаю „на жыццё", яно многа цяпер каштуе.

**М.:** Жывеш з бацькамі, гэта табе, напэўна, дапамагае пражыць?

**Я.:** Так.

**М.:** Твае старыя файныя? Твой далёкі сваяк — гэта Андрэй. Можа, твае бацькі таксама паходзяць з Пянькоў?

**Я.:** Ну і дэдукцыя! Праўда, з Пянькоў. А ўвогуле — яны цудоўныя! Бацька ўжо на пенсіі а мама ўсё жыццё вяла дом.

**М.:** Колькі вас яна вывела ў людзі?

**Я.:** Чацвёра. Нас дваіх, старэйшага брата і самую старэйшую сястру. Браты ўсе працуюць разам са мной у МПК у Беластоку, сястра — у выхаваўчым водпуску. Што мне больш сказаць аб сабе? Не люблю я аб сабе гаварыць, няхай лепш Пеця скажа.




**П.:** Ну, які ён... Цікавы жыцця, свету, вялікай амбіцыі... *(Пеця наморшчыўся, думае).* „Роўны", добры сябра.

**М.:** Бачыш, Яську, з цябе добры сябра. Гарбаткі п'еш у меру...

**П.:** Пакуль хопіць сілы і подыху!

**М.:** Гарбатка Ёлі ўжо канчаецца, трэба будзе купіць пару пачак, хаця б „папулярнай".

**Віця:** Цьфу, такое смецце, маё далікатнае паднябенне не выносіць „папулярнай"!

*Пятро спецыяльна голасна сёрбае напітак.*

**М.:** Не сёрбай, Пеця.

**В.:** Заглушваеш інтэрв'ю.

**П.:** Эх, жизнь!

**Я.:** З вамі нічога мне ў галаву не прыходзіць.

**М.:** Напіся гарбаты. Янка, ты такі цікавы чалавек, і таямнічы — многа не гаворыш.

**Я.:** Я — маларазмоўны.

**М.:** Люблю сталых, не вельмі гаваркіх мужчын. Мая мама гаворыць, што такія многа думаюць.

**Я.:** Гм, гм, гм.

*Хвіліна маўчання. Янка глядзіць у акно, завешанае саламянай занавескай, думае. Усе ціха папіваюць дымячую гарбату, на кухні шуміць чайнік. Кошка расцягнулася на лаве, прыглядаецца нам янтарным вокам.*

**П.:** Я Янку ведаю яшчэ з пясочніцы.

**М.:** Разам ляпілі „бабкі"?

**В.:** Не „ўціскай кіту".

**М.:** Янка, ну, што з гэтымі бабкамі?

**Я.:** Пясчанымі? Многа было гэтых бабак!

**М.:** Якой масці бабак любіш? Бландзінак? Сівых, рыжых?

**Я.:** Не! Чорных, з васільковымі вачыма.

**П.:** Гэта не пяройдзе!

**М.:** Што — „не пяройдзе"?

**П.:** Ну, пяройдзе, няхай табе будзе, пабачым!

**Я.:** То мне лічыць гэтыя бабкі, ці не? Адна, дзве... шэсць. Кожная іншага сорту. Люблю дзяўчат адкрытых, для якіх добрасумленнасць важнейшая, чым грошы, напрыклад...

**М.:** Ну, так, але без грошай няма ж як жыць!

**Я.:** Грошы — не самае важнае ў жыцці. Вось я так цяпер думаю. Уфф, я стаміўся!

**М.:** Ты тут у нас упершыню. Яшчэ ёсць у нас час пагутарыць аб розных справах, Янка. Жыццё задасць нам такія пытанні, адказ на якія выцісне не такі пот з ілбоў, а крывавыя слёзы...

**П.:** Кінь ты! Цяпер сядзім тут. Усе разам. Вуліца, усё ж, Вясёлая!

**М. Лукша**

---

— Было гэта так, — успамінае Генрык Малышка. — Калі спыніліся мы ў Оршы, — дык пабег я за вадою і хлебам. Іду, азіраюся па станцыі і раптам чую знаёмы голас: *„Генрык! Гэта ты?"* Азіраюся і бачу нашу беластоцкую суседку. Сядзіць яна на нейкіх клунках, прыгарнуўшы да сябе дваіх сваіх змучаных дзяцей. Была гэта жонка аднаго чырвонаармейскага афіцэра, які служыў на беластоцкім аэрадроме. Мае бацькі мелі свой драўляны домік па вуліцы Жалезнай. Па-суседску з намі кватаравалася гэтая руская сям'я. Людзі добрыя, спагадлівыя, без зазнайнасці, хаця мой бацька быў толькі камінарам, а ён, гэты рускі, афіцэрам. Між нашай мамай і жонкай гэтага афіцэра завязалася нават добрасуседскае сяброўства. Мы дапамагалі адзін другому. І вось гэтая нечаканая сустрэча далёка ад дому! Я, вядома, тут жа пацікавіўся лёсам маіх бацькоў, запытаў, што з імі. І ў адказ пачуў гэтую трагічную вестку, што яны загінулі.

— Там так бамбілі, так бамбілі! Усё ў агні стаяла... — гаварыла жанчына.

Жаль, нястрымны жаль, вялікай сілай сціснуў горла 13-гадоваму хлопчыку. Ён расплакаўся і, забыўшыся, за чым яго паслалі, быццам ап'янелы, паплёўся назад у свой эшалон. Не хацелася яму нікога бачыць, з нікім гаварыць. На пытанні сяброў ён злосна забурчаў, каб ад яго адчапіліся.

— Бацькі мае загінулі! — войкнуў Генрык ды зноў зарыўся ў цёмны куточак гаманлівага вагона. Не было асноў, каб не верыць гэтай жанчыне. Генрык ведаў, што непадалёку ад іхняга доміка знаходзіліся казармы, запоўненыя войскам. Калі немцы бамбілі гэтыя казармы, як гаварыла руская жанчына, дык мог загарэцца і бацькоўскі дом. *„Значыць, я сірата!"* — цяжка ўздыхнуўшы рашыў гэты юнак. І ад гэтага рашэння стала яму яшчэ болей цяжка ды і лягчэй адначасова. Зразумеў ён, што яго лёс цяпер звязан выключна з гэтай грамадой таксама абяздоленых сяброў і сяброўак. Няма роднага дому, няма бацькоў! Ён можа разлічваць толькі на сябе... З гэтым перакананнем давялося яму пражыць роўна чатыры гады. Аж да таго моманту, калі з вызваленага Беластока пошта прынесла ў дзяржаўны дзіцячы дом, што знаходзіўся ў Каракуліне, на беразе Камы, ліст, адрасаваны яму, Генрыку Малышку, які пачынаўся так: *„Каханы сынок!"*. Памылялася гэтая суседка! Яго бацькі засталіся ў жывых. Маці жыве яшчэ і дагэтуль на той жа Жалезнай вуліцы, у тым жа драўляным доміку.

Толькі ўсё гэта было намнога пазней. А тады, у апошні тыдзень чэрвеня 1941 года, эшалон з дзецьмі з Беластока ўсё яшчэ імчаўся ды імчаўся на ўсход. Гаварылі ім, што яны едуць у Маскву. Дні праходзілі, а сталіцы краіны Саветаў яны ўсё яшчэ не бачылі. Дык куды? Пагутарым аб гэтым ужо наступным разам.

**Віктар Рудчык**

---

(Працяг са стар. 4)

# АДКАЗ НА АПЫТАЛЬНІК

На гэтым можна было б закончыць аналіз зместу апытальніка і сардэчна падзякаваць усім тым, што ўзялі ў ім удзел, за шчырыя выказванні ў імя супольнага ўдасканальвання нашай газеты.

Але сярод добрасумленных выказванняў ёсць некалькі, ад якіх нясе нянавісцю да „Нівы" і БГКТ. Аналізаваць іх няма патрэбы. Хочам падаць, аднак, некаторыя звароты. Зрабіць „Ніву" больш цікавей можна, піша студэнт, „проста: зрабіць яе дадаткам да „Прысутнасці" і змяніць рэдакцыю". Той жа студэнт у адказе на дзесятае пытанне сцвярджае, што „Ніва": узбагаціла яго веды, навучыла чытаць па-беларуску, узбудзіла яго нацыянальную свядомасць, выклікала зацікаўленне ў асяроддзі і дадаў: „Ваш верны чытач". Што за ўдзячнасць і што за логіка?!

Іншы ж студэнт, хоць „Ніву" чытае рэдка, але раіць палепшыць яе праз „недрукаванне А. Барскага і „Вестак з БССР" у такой форме".

Чарговых двух студэнтаў раіць змяніць загаловак „Нівы" на „Прысутнасць" і больш аб іх пісаць. У „Ніве" падабаюцца ім толькі „Сардэчныя тайны". Ад дзесяцігоддзяў некалькі пакаленняў шукае дарог удасканальвання „Нівы", а тут усё так проста: хопіць змяніць назву, увесці студэнцкі змест, а сучасны чытач не істотны.

Для кантрасту прывядзем выказванні чытача з БССР: „Мяне, піша ён, прываблiваюць тут шматлікія рэчы сваёй непасрэднасцю, адметнасцю і самабытнасцю. Яны кранаюць душу замілаваннем да роднага краю і яго народа, водырам таго своеасаблівага адцення беларускай мовы, які пакінуў моцны след у маёй памяці з дзяцінства. Чытаючы Вашу газету, здаецца, я зноў і зноў вяртаюся ў край майго чароўнага маленства..."

Можна спытаць: чаму мы, беларусы Беласточчыны, не ўспрымаем так эмацыянальна змест „Нівы"?

**Уладзімір Юзвюк**

---

# НАМ АДКАЗВАЮЦЬ

W nawiązaniu do notatki zamieszczonej na łamach tygodnika „NIWA", Państwowe Gospodarstwo Rolne w Bielsku Podlaskim informuje, iż zostało przeprowadzone postępowanie wyjaśniające. Stawiane zarzuty okazały się słuszne.

Kierownik Zakładu Rolnego w Parcewie został zobowiązany do wytyczenia zaoranych dróg na polach wsi Widowo. Wiosną drogi zostaną zawałowane celem przywrócenia im stanu należytego użytkowania.

Państwowe Gospodarstwo Rolne
w Bielsku Podlaskim
Z-ca Dyrektora
**Henryk Żmujdzin**

---

## KOMUNIKAT

Okręgowa Komisja Badania Zbrodni Hitlerowskich w Białymstoku zwraca się z uprzejmą prośbą o nadsyłanie informacji dotyczących oficera radzieckiego Aleksandra Płatonowicza Surotowa, który w czerwcu 1941 r. przebywał w Choroszczy i ślad po nim zaginął.

Informacje proszę przysyłać pod adresem:

Główna Komisja Badania Zbrodni Hitlerowskich w Polsce — Instytut Pamięci Narodowej Okręgowa Komisja w Białymstoku ul. M.S. Skłodowskiej 1 (tel. 273-34).



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020




## СУМНЫЯ РЭФЛЕКСІІ

Рэдакцыя пытаецца, чаму я перастаў пісаць у „Ніву“. Што ж, доля мая відаць такая, што я апынуўся сярод тых, каму не пад сілу з адной зарплаты сям'ю пракарміць. Таму дома я проста рэдкі госць, і матэрыялы ў газету ляжаць гадамі і некалі мне іх кончыць.

Сёння ж, заахвочаны пісьмом з рэдакцыі, спакусіўся паслаць кароценькія рэфлексіі. Учора ў тэлебачанні, у праграме, званай „Цік-так“, дзеці гулялі, карыстаючыся польскай і рускай мовамі. Падумалася: гэта вельмі разумны спосаб, каб асвоіць моладзь з замежнымі мовамі, наблізіць іх і павучыць імі бегла карыстацца. А ўсё ж зрабілася нейк сумна на душы — ці кожная мова мае шанц на папулярызацыю? Тыдзень таму назад у гэтым самым тэлебачанні паказвалі „Слёзы зямлі“. Вобразы паламаных дрэў, якія ў роспачы працягваюць куксы карэнняў у неба, бездапаможнасць буслоў, што з усёй ваколіцы зляцеліся на адзін дах, патраціўшы свае гнёзды, адзінота выкінутага са свайго „гнязда“ дзядулі, які ніяк не можа развітацца са старэнькім ветраком, зрабілі на маю жонку такое ўражанне, што яна расхварэлася.

Мяне ж уразіла іншая справа. З тэлевізійнага экрана не пачуў я нічога: ні аб самой „карціне“, ні аб глыбейшых праблемах, звязаных з паказанай падзеяй. Галоўнае, рэалізатары фільма рупна мусілі сачыць, каб выпадкова адзін з „герояў“ беларускім словам не выявіў свайго паходжання і не парушыў гармоніі безыменнай драмы. Я дапытваўся ў тых, што бачылі гэты фільм, ці хто ўгадаў, дзе адбываліся паказаныя падзеі. Тут не знайшоў такога. Некаторыя, што верай не зацікаўлены, нават не прыкмецілі асаблівасці няпольскіх песень і набажэнства ў некаторых сцэнах фільма. Былі такія, што думалі, быццам паказана тут нешта замежнае. Вось таму і мучыць мяне пытанне: якая прычына змушае людзей Беласточчыны хаваць сваё аблічча перад светам, скрываць яго за чужой маскай і чакаць, калі маска прырасце да жывога...

Яшчэ нядаўна давялося мне глядзець даваенныя польскія фільмы, у якіх дыялогі вяліся на яўрэйскай і ўкраінскай мове. Чаму ж сёння, у сацыялістычнай рэчаіснасці, ніхто, робячы фільм, не карыстаецца беларускай мовай — тым больш, калі закранае ён праблемы беларускага асяроддзя?

Нялёгкая загадка. А можа няма тут ніякай загадкі, толькі наяўнасць сімптомаў працяглай гістарычнай хваробы? Скажам, адна з іх заключаецца ў тым, што беларусы ніяк не могуць зразумець, што яны могуць быць людзьмі, не перастаючы быць беларусамі. Другая — што грамадства нашай дзяржавы ўсё яшчэ хварэе на недахоп сацыялізму (словы ген. Ярузельскага), а затым і недахоп раўнапраўя і чалавечнасці.

Хто можа нас вылечыць з гэтых хвароб?!

**А. Маўчун**

## НЕ НАРАКАЙМА

Неяк так у нас павялося, што прывыклася надта ж многа наракаць. Са злосцю гаворыцца, што ў крамах няма таго ці іншага, што жывецца нам вельмі цяжка, што дрэнная справа з прадуктамі харчавання, што малая зарплата. Ва ўсіх гэтых нараканнях ёсць і праўда, але яна далёка няпоўная, у іх толькі паўпраўда. Нягледзячы на цяжкае эканамічнае становішча нашай краіны, людзям не жывецца дрэнна. Краіна наша бедная, праўда, з вялікімі заграпічнымі фінансавымі задоўжанасцямі, але людзі не бедныя, а некаторыя сталіся значна багацейшымі, як былі 5 ці 7 гадоў таму назад.

Заўважце, колькі людзі ў гэты крызісны перыяд набылі сабе розных тыпаў аўтамашын, колькі купілі аўтаматычных пральных машын, тэлевізараў, халадзільнікаў, колькі пабудавалі вілаў і атрымалі памяшканняў у новых дамах!

ГлянЬма на вёску. Усё там змянілася. Зніклі вузенькія, часам двухкіламетровыя палосачкі. Замест цераспалосіцы цяпер сяляне маюць у адным альбо ў некалькіх кавалках усе свае зямельныя ўгоддзі. А была ж у некаторых мясцовасцях у гаспадароў зямля і ў трыццаці кавалачках. Сяляне набылі шмат трактараў, касілак, малацільных агрэгатаў і іншых сельскагаспадарчых машын.

Велізарныя перамены адбыліся ў камунікацыі. Цяпер ПКСы даязджаюць да самых найдалейшых мясцовасцей.

Амаль зусім зніклі саламяныя стрэхі, цапы, пранікі, вазы-жалезнякі, жорны, кросны, калаўроткі, маслабойкі, церніцы, сохі і драўляныя бароны, ночвы, калыбелі, сярпы. Адышлі ў забыццё такія спецыяльнасці як жанцы, касары, малацільшчыкі, капачы бульбы, вясковыя пастушкі-дзеці і сталыя, старэйшыя людзі — пастухі авечак і кароў. Беспаваротна зніклі бабкі-павітухі, якія замест лекараў прымалі нованароджаных. І сваты-райкі сталі непатрэбныя, бо без іх маладыя людзі дамаўляюцца і жэняцца. Калісьці, як было вяселле, дык у драбках ці брычках, або жалезнымі вазамі ў пару коней са звончыкамі ехала вяселле да шлюбу, раскідаючы цікаўнаму натоўпу спецыяльна спечаныя „гускі“. Цяпер пайшлі ў рух аўтобусы і таксоўкі ды і гаротных прымакоў няма, а пасагі перасталі быць важнейшымі ад дзяўчыны.

Заціхлі на вёсцы вечаровыя спевы моладзі і музыкі-забавы. Многагадовых нарачоных таксама няма — жэняцца сёння, доўга не дружачы з сабою.

Няма цяпер галечы, самаробнай вопраткі, лапцяў, няма жабракоў, якія, ходзячы па хатах, прасілі кавалачак хлеба.

Цяпер цяжка паверыць у тое, што вясковыя дзеці калісьці мусілі па два гады сядзець у трэцім класе і па тры гады ў чацвертым, каб мець закончаную няпоўную пачатковую школу. Сямікласную „паўшэхную“ школу нямногія канчалі, бо школ мала было. А калі на вёсцы хто закончыў 7 класаў, дык лічыўся высокаадукаваным чалавекам. Вучоба ў сярэдняй школе, гімназіі, была рэдкасцю. Аб гэтым добра ведае старэйшае пакаленне, і я сам памятаю той цяжкі санацыйны перыяд сялянскага жыцця.

Занікаюць і прафесіі кавалёў, шаўцоў, калёснікаў, бондараў, а ў гарадах — свінабояў-мяснікоў, розных скупшчыкаў. І млыны-ветракі зніклі.

Цяпер сталі ўжо іншыя патрэбы людзей. І на вёсках будуюцца дамы гарадскога тыпу, з усімі выгодамі. Напрыклад, у маёй мясцовасці, у Шудзялаве на Сакольшчыне, пабудавалі 8 блёкаў: 7 з іх пабудаваў крыноцкі ПГР для 90 сем'яў і 1 збудаваны СКРам, для 12 сем'яў. А далей, за Шудзялавам, непадалёк Астраўка, можна ўбачыць сельскагаспадарчы самалёт, які рассейвае мінеральныя ўгнаенні і хімічныя сродкі супроць пустазелля, сее збожжа!

Мяняецца жыццё — мяняецца і краявід.

**Міхась Хмялеўскі**

## І ГЭТА БЕЛЬСК



**Бельск — гэта не толькі высокія дамы і асфальтаваныя вуліцы, грукат паравозаў і шум аўтамашын, прыгожыя жанчыны і занятыя здабычаю мужчыны. У іх застаюцца яшчэ і рэшткі даўняй бядотнасці, галоты. Як нейкі экспанат у нейкі будучы музей беднасці, стаіць хаціна, якую мы ўгледзелі і сфатаграфавалі для памяці гладкатварым унукам на бельскай вуліцы Дубічы. Гаворачы купалаўскімі словамі: гэта памятка дзён, што ў нябыт адыйшлі...**

**Андрэй Гаўрылюк**

## ШЛЯХАМ ГАДОЎ

Цеснае супрацоўніцтва Ягайлы і Скіргайлы Альгердавічаў, асабліва ўзвышэнне каралём свайго брата на фактычнага яго намесніка ў Вялікім княстве Літоўскім, не прыйшлося да спадобы іхняму стрыечнаму брату Вітаўту.

Гэта ўмомант заўважылі розныя падлізнікі і інтрыганы, якіх і ў тыя часы было не абагнацца, ды ўхапіліся за самыя неймаверныя нагаворы і ўшчуванні аднаго князя на другога. Асабліва падатлівым на розныя даносы і паклёпы быў Вітаўт. То ў Вітаўтавы вушы нашапталі, мабыць, што Скіргайлавы слугі каля Луцка рышчуць, ды чакаюць нагоды, каб звесці яго са свету. А Ягайлу аж у Кракаў данеслі, быццам бы Вітаўт патаемна перапісваецца з князем маскоўскім і няйнакш рыхтуе здраду. І гэтак чым далей, тым болей. Але ж, як кажа прыказка, дыму без агню не бывае. Мабыць, пільнае вока Ягайлавых рыскуноў-шпіёнаў нешта за Вітаўтам прыўважыла, бо Ягайла надта ж жорсткімі допытамі намагаўся дабіцца паказанняў ад адмысловага Вітаўтава пасланца ў Маскву, якога недзе каля Віцебска пераймалі каралёвы людзі. Кароль не даў стрыечнаму брату паўночна-заходняй Валыні з горадам Уладзімірам (былога Валынскага княства), хоць той і прасіў яго, каб, маўляў, з Луцка па сваёй зямлі ў Берасцейшчыну ці Гарадзеншчыну ездзіць. Было і шмат іншых узаемных прэтэнзій. Варожасць паміж Альгердавічамі і Кейстутавічамі ўзмацнялася і гатова была ў любы момант выліцца ў адкрытую братазабойчую разню.

## БУНТ

Кровапраліццю спрабавала запабегчы каралева Ядвіга. Яна, несумненна за парадай мужа, давяла да асабістага спаткання Скіргайлы з Вітаўтам 29 мая 1389 г. у Любліне і паяднання іх. Прытым Вітаўт абавязаўся не слухаць даносаў і быць верным паплечнікам стрыечных братоў.

Як і трэба было спадзявацца, пра свае абяцанні ды прысягі Вітаўт забыўся ўжо на парозе люблінскага замка і, вярнуўшыся ў Луцк, адразу ўзяўся рыхтаваць паўстанне супраць Скіргайлы і Ягайлы. Аднак выступленне было задушана ў зародку, а Вітаўт з сям'ёю спачатку ўцёк у Дарагічын, а потым схаваўся ў самай моцнай у яго ўладаннях крэпасці — Гародні. Аднак ён не супакоіўся. Падпільнаваў, „калі Скіргайла з Вільні падаўся ў Полацк, — як падае „Хроніка літоўская і жамойдская“, — сабраў гарадзенцаў і падляшукоў і, ціхачом падышоўшы пад Вільню, хацеў узяць абодва віленскія замкі. Аднак быўшыя на службе ў Скіргайлы палякі, якія знаходзіліся на Высшым замку, і віленскія мяшчане, што былі верныя свайму пану, двойчы адбілі яго ад замкаў і ён вымушаны быў адступіць назад. І Вітаўт, убачыўшы, што яму не па яго волі вядзецца, вярнуўся ў Гародню. Потым з Прусаў за грошы наняў немцаў, а таксама сабраўшы не мала сваіх баяраў і жаўнераў, абяспечыў ваяўнічым рыцарствам і стрэльбамі вялікімі і малымі замкі Гародні, Бярэсця, Суража і Камянца. Да таго меншыя крэпасці ўзброіў і ўмацаваў рыцарствам, а сам з жонкай Аннай і з усімі сваімі скарбамі выехаў у Мазоўша да князя мазавецкага Януша“.

Аднак у Чэрску, у роднай сяс-



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 1)

*…гункай, адна багажная каса, чатыры касы для продажу білетаў на праезд аўтобуснай камунікацыі.*

*Капіталаўкладанні — 900 мільёнаў злотых.*

*Рэалізатар будаўнічых работ — Бельскападляшскае будаўнічае прадпрыемства, якім кіруе магістр інжынер Антон Кос.*

*Праектант новага вакзала — магістр інжынер архітэктар Данута Даманская.“*

Столькі з гэтага ўрачыстага акта. Ён, вядома, не раскрывае драматычнага змагання за ажыццяўленне шматгадовых патрабаванняў жыхароў Бельска і яго акругі. Калі больш-менш год таму назад ваяводскія спецыялісты прасейвалі цераз свае вельмі ж густое сіта ўсе патрабаванні насельніцтва Беласточчыны па новых капіталаўкладаннях, пабудова вакзала ў Бельску-Падляшскім не знайшла сабе месца ні ў гадавым плане на 1987 год, ні ў плане на бягучую пяцігодку. Бяльчане, аднак, не здаваліся. Начальнік Л. Парафінюк у сваім выступленні на гэтай жа ўрачыстасці адзначаў:

*„Намаганні, каб пабудаваць вось гэты аб'ект, маюць у нас доўгую гісторыю. Шмат разоў былі яны запісаныя як патрабаванні ад насельніцтва ў выбарчых праграмах у Сейм і рады народовыя, а таксама кожная пастанова гарадской канферэнцыі ПАРП узнімала гэтую справу як адну з першапланавых“.*




Калі ўзнікла гарадская рада ПРОН, яна таксама ўключыла ў сваю праграму дзейнасці намаганні за пабудову вакзала ў Бельску. За ўсімі гэтымі намаганнямі стаяць канкрэтныя людзі.

Цяпер адказнасць за пабудову вакзала ў Бельску ўзялі на сябе тры салідныя інвестары: чыгунка, ПКС і горад. Ажыццяўленнем праекта займаецца бельская будаўнічая фірма, якая карыстаецца заслужаным аўтарытэтам. Дык можна верыць заказчыкам і выканаўцам, што цераз два-тры гады Бельск атрымае па-сучаснаму абсталяваны вакзал, у якім не толькі хутка можна будзе купіць білет, але адначасова адпачыць і падсілкавацца.

— А найважнейшае, — заявіў начальнік Аляксей Рошчанка, — урэшце-рэшт мае супрацоўнікі па станцыі атрымаюць людскія ўмовы для выконвання сваіх службовых абавязкаў.

Застаецца тады мне пажадаць шчаслівага ажыццяўлення гэтай пабудовы, якая так доўга і з такім болем нараджалася.

Ва ўрачыстасцях у Бельску ўдзельнічала таксама чатырохасабовая дэлегацыя ад гродзенскіх будаўнікоў, якую ўзначальваў Мікалай Уладзіміравіч Мурэня, што будаваў вакзал у Гродне. Прыехалі яны па запрашэнні бельскіх будаўнікоў.

**Віктар Рудчык**

## БЕЛАРУСКІЯ АЛІМПІЙЦЫ

За школьны год 1986/87 у Беларускім ліцэі імя Б. Тарашкевіча ў Бельску было пяць асоб, якія дайшлі да цэнтральных прадметных алімпіяд. (Да ваяводскай алімпіяды закласіфікавалі з ліцэя 46 асоб). Цэнтральныя алімпійцы былі: па біялогіі — дзве асобы, па рускай мове — адна, па тэхнічным выхаванні — адна, па ахове асяроддзя (новая алімпіяда) — адна. Гэтым першым ахоўнікам прыроды-алімпійцам з'яўляецца Юра Бароўскі з Боцькаў, цяпер вучань чацвёртага класа. Экалагічную цэнтральную алімпіяду выйграў, будучы ў трэцім класе.

Прырода вакол нас гіне і таму такія людзі, як Юрка, нам патрэбны. Можа яны — маладыя і свядомыя значэння аховы асяроддзя — затрымаюць наш дурацкі бег да экалагічнай, а што за тым ідзе і біялагічнай катастрофы. **(вв)**

(Працяг са стар. 3)

## ЗАЎВАГІ НА ЧАСЕ



штогод „атр... каля 70-80 чалавек (лічачы Варшаву і Беласток разам), дык аказваецца, што толькі адзінкі ўключаюцца ў беларускую дзейнасць. Неабходна будзе дакінуць, што гэткія „атрэсеныя“ састаўляюць менш чым палову беларусаў, паступаючых у Вышэйшыя навучальныя ўстановы. Дык тады аказваецца, што большасць моладзі, нягледзячы на „атрасіны“ і іншае, знаходзіцца на нізкім узроўні нацыянальнай свядомасці — на ўзроўні „ўсходнеславянскай этнічнай групы“, ужываючы словы У. Паўлючука. Як жа крыўдна пачуць недзе на вуліцы ці ў іншым публічным месцы ад нядаўняга шчырага беларуса, знаёмага, напрыклад, з „атрасін“, словы тыпу: „Wiesz co, nie mów do mnie po rusku“, ці больш культурна: „Прашу, не гавары пры маіх знаёмых пасвойму“. Гэта напэўна не парадуе арганізатараў такіх „атрасін“. Сумнае і тое, што большасць шчырых першакурснікаў, даючы прысягу беларускага студэнта, хутка забывае пра яе. Забывае пра вернасць традыцыям бацькоў, пра родную мову, пра нацыянальную гордасць, пра абавязкі перад родным. Вельмі трапна акрэсліў атмасферу на мінулагодніх беластоцкіх „атрасінах“ Валік Сельвесюк, кажучы, што ён адчувае сябе тутака, як на забаве ў Тыневічах, толькі не ведае, добра гэта ці дрэнна...“ Зноў узнікае тое самае пытанне: каму гэта патрэбна? Каб пагуляць у „сваёй“ кампаніі, мо й пайсці на вясковую забаву, каб забавіцца ў студэнцкім асяроддзі — калі ласка, дыскатэка, ды каб быць „атрэсеным“, хопіць пайсці на падобнае мерапрыемства ў свой, скажам, інстытут. Навошта ж патрэбныя беларускія „атрасіны“? Якая з іх карысць?

Варта, каб на будучыню нашы арганізатары задумаліся над гэтым. Мо нешта змяніць у форме і спосабе правядзення такога мерапрыемства. Хай гэта не будзе такая шматлюдная, масавая імпрэза, бо ж вядома, што ў такіх выпадках губіцца многае з адметнасці і своеасаблівасці, ды найважнейшае — яе нацыянальны характар. Атрымліваецца акурат не тое, што павінна быць. Больш, думаю, было б карысна, каб „атрасіны“ рабілі для меншай колькасці людзей, не соцень, а дзесяткаў чалавек, і не абавязкова ў такой форме, а напэўна ўжо без гульняў. Якраз гэты пункт праграмы — танцы — павінен быць найменш важны, а выглядае зусім наадварот.

Можна, прыкладна, спалучыць які-небудзь рэйд-паход з „атрасінамі“ для першакурснікаў. У такім выпадку была б гэта таксама лекцыя сапраўднай пашаны для роднага і на роднай зямельцы. Проста, варта паспрабаваць інакш, а тады мо і эфект будзе іншы.

Пры нагодзе хачу яшчэ дадаць адно, што ў арганізаванні такіх масавых мерапрыемстваў, як „атрасіны“, запусты ці балы, трэба з усіх сіл старацца пазбягаць таго, каб прысутнічалі на іх зусім выпадковыя людзі. Вось мае заўвагі наконт „атрасін“.

**Юрка Ляшчынскі**

тры Анны-Дануты і швагра Януша, Вітаўту і яго сям'і месца не знайшлося. Відаць, мазавецкая княжацкая пара не захацела з-за бунтаўнікоў, хоць і родзічаў, псаваць свае адносіны з Кракавам і Вільняй. Калі адмовіў у дапамозе родны швагер, Вітаўт падаўся да швагра... сваіх смяротных ворагаў — князя Земавіта ў Плоцк! Той прыняў уцекачоў з адкрытымі абдымкамі і, разважыўшы з Вітаўтам незайздроснае яго становішча, падняўся быць пасрэднікам у перамовах з Альгердавічамі. Неўзабаве паміж Плоцкам, Вільняй і Кракавам зачасцілі пасыльныя. Скіргайла, мабыць, быў больш падатлівы на просьбы стрыечнага брата і хацеў з ім згоды. Затое Ягайла наадрэз адмовіўся весці з Вітаўтам перамовы і намерваўся, відаць, прыкладна пакараць бунтарнага родзіча. Прытым выказаў сваё нездавальненне, што Земавіт і Аляксандра далі яму ў сябе прытулак. Воляй-няволяй у канцы 1389 г. Кейстутавічу давялося з усёй сям'ёй ды шматлюднай світай накіравацца да... крыжакоў.

Хоць кіраўнікі Ордэна яшчэ добра памяталі, як нядаўна Вітаўт ім здрадзіў, але і цяпер прынялі Кейстутавіча ахвотна. Што ж, ён ім быў найважнейшым саюзнікам у барацьбе супраць уніі Вялікага княства Літоўскага і Польшчы ды і наогул супраць гэтых абедзвюх дзяржаў. Аднак крыжакі паставілі Вітаўту шэраг патрабаванняў: па-першае, узялі закладнікамі княгіню Анну, Вітаўтавых сястру Рынгалу і брата Зыгмунта ды сотню баяраў са світы; па-другое, патрабавалі ўрачыстай прысягі і дакументаў, што пасля адваявання бацькаўшчыны Вітаўт будзе верным падданым Ордэна і, па-трэцяе, аддасць ён усе даўгі за тыя грошы, зброю і харчы, якія возьме ў крыжакоў за час свайго і світы побыту ў іх. Вітаўт на ўсё згадзіўся без якога-колечы хістання, прысягнуў на Свяшчэннае пісанне, усё ўласнаручна і пры шматлікіх сведках падпісаў.

І хоць гэта была ганебная здрада найважнейшых дзяржаўных інтарэсаў Вялікага княства Літоўскага, не выклікала яна асаблівай агіды да здрадніка з боку яго суайчыннікаў. Болей таго: з усіх бакоў Вялікага княства і перш за ўсё з Гарадзеншчыны, Дарагічыншчыны і Берасцейшчыны пацягнуліся да яго ў Ордэн шматлікія баяры, мяшчане, сяляне. Што кіравала іх да Вітаўта? Язычнікі — жмудзіны, летувісы ды патомкі прусаў і яцвягаў — шукалі ў яго ратунку ад хрышчэння, праваслаўныя беларусы — апекі ад націску з боку сваіх жа суродзічаў, якія толькі што перайшлі ў каталіцкае веравызнанне. А ўсе яны бачылі ў асобе Вітаўта дастойнага пашаны і даверу выдатнага сына і прадаўжальніка справы яго бацькі — славутага Кейстута.

Моц Вітаўтавых войск расла з кожным днём. Да ўдару на Вялікае княства Літоўскае рыхтаваліся таксама крыжакі Прусіі і Лівоніі (Інфлянтаў), яны аб'явілі пра тое па ўсёй Еўропе і адтуль пачало да іх сцякацца заходняе рыцарства, каб „на ўсходзе пашыраць сярод паганаў і схізматыкаў праўдзівую веру Хрыстову“. Але і ў Вялікім княстве таксама не спалі ў шапку. Рыхтаваліся вялікія бітвы. Пра іх — наступным разам.

**Мікола Гайдук**
Мал. У. Петрука



Каралева Ядвіга годзіць Вітаўта са Скіргайлам.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ФАЛЬКЛОР




## ДЗЕТАНЬКІ ПЛАЧУТ НА ПЯЧЫ

(хрысцінная)

Пасадзіла ружу ля акна,
пасадзіла ружу ля акна.
Ўзяла сабе мужа, ўзяла сабе
мужа,
ўзяла сабе мужа
прымака.
Ўзяла сабе мужа, ўзяла сабе
мужа,
ўзяла сабе мужа
прымака.
А прымак ні робіт, толькі п'е,
а прымак ні робіт, толькі п'е.
Як прыдзе дадому, як прыдзе
дадому,
як прыдзе дадому,
жонку б'е.
Як прыдзе дадому...
— Не бі мэне, мужу, ні карай,
не бі мэне, мужу, ні карай.
Я цібе пакіну, а сама паеду,
а сама паеду
за Дунай.
Я цібе пакіну...
Як сядала ў лодачку, сядала,
як сядала ў лодачку, сядала.
Праваю ручэнькой, белаю
хустэнькой,
белаю хустэнькой
махала.
Праваю ручэнькой...
— Ой, вярніся, жонка, дадому,
ой, вярніся, жонка, дадому.
Я ні буду біці, а буду любіці,
бо пагано жыці
самому.
Я ні буду біці...
Ой, вярнулась жонка ўначы,
ой, вярнулась жонка ўначы.
Ложачкі ні мыты, талеркі
пабіты,
пічэ й дзетанькі плачут
на пячы.
Ложачкі ні мыты...

Ал Валянціны (1941 года нараджэння) і Сямёна (1940 года нараджэння) Лукшаў, спевакоў з калектыву „Сямяне", в. Баб'я Гара гм. Нараўка, запісаў 14 верасня 1987 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

# СОННІК



**Скок** — страта прыяцеля.
**Скупы** — непрыемныя звесткі.
**Скура** свая — каханне; у зморшчках — старасць; з жывёлы ці звера — здрада; купляць — хвароба; гарбаваць — страты; каляровая — перашкоды.
**Скрыня** поўная — дастатак; пустая — засмучанне; нясціяе — непрыемныя заняткі ці абавязкі.
**Скрыпка** — згода ў сям'і; чуць — няспоўненыя зычанні.
**Скрэбці** — дробныя непрыемнасці.
**Слава** — урадавыя справы.
**Сланечнік** — значэнне і пашана.
**След** — сустрэнеш непрыязных табе.
**Слесар** — раскрыеш таямніцу.
**Слёзы** — неспадзяваная радасць.
**Слівы** есці — захварэеш на запор; дрэўца ў цвеце — перад табою адкрыты свет; сушаныя — нудная кампанія.
**Слізгацца** — шчаслівы збег інтарэсаў; бачыць, як слізгаюцца — застой у інтарэсах.
**Сліна** — вялікая радасць.
**Слова** зламаць — нядзейсненыя надзеі.
**Слон** — разважлівасць, позняя жаніцьба або замужжа; ездзіць на ім — шчасце; забіты — няўдачныя намеры.
**Слота** — турботы.
**Слоўнік** — поступ у вучобе.
**Слуга, служанка** — трапіш у залежнасць.
**Слуп** — цябе ніколі не кране бяда; падпірае што-небудзь — пэўная, трывалая пасада.
**Слых** страціць — няўважлівасць.

# САРДЭЧНЫЯ ТАЙНЫ

Дарагое Сэрцайка! Паўгода таму назад засталася я ўдавіцай. Муж мой хварэў на жаладак, ныркі, а неспадзявана памёр на інфаркт. Быў гэта для мяне страшны шок. Хаця быў у мяне сын, жанаты і з дзіцём, то адчуваю я сябе быццам палец. Загубілася зусім. Сэрцайка! А каб ты ведала, які быў добры мой муж! Прыйдзе бывала з працы, а працаваў жа на фабрыцы, дык, нягледзячы на стомленасць, браў сетку і бег за пакупкамі: хаця каб мне было лягчэй. Усё для мяне б купляў, апранаў бы ва ўсё дарагое. Сэрцайка, мне сорамна прызнацца, але я ў сваім жыцці ніводнага разу не пайшла без майго мужа да стаматолага! Мне вырываюць зуб — а ён сядзіць на калідоры і перажывае... Але ўжо дахаты, здаецца, было вяртацца і вяселей. Вось такі быў мой муж. А цяпер яго няма. Пахавала я яго з вялікім гонарам і не шкадуючы граша. Хутка буду ставіць ужо помнік. Але ўсё ж не пра гэта я хачу пісаць табе.

Не мінула два месяцы пасля смерці майго мужа, як да мяне пачалі сватацца. Першым быў найлепшы сябра майго мужа, які застаўся ўдаўцом два гады таму назад. Пераходзь, кажа, да мяне — у мяне ж свая кватэра, а тваю кватэру пакінь сыну, няхай яны жывуць спакойна! У мяне ў сярэдзіне ажно ўсё пахаладзела. Як жа так можна? Ці ж ты забыўся пра майго мужа? Я ж яго жонка, кажу, а ён мне адказвае, маўляў, табе ўсяго 50 год, а ты ўжо хочаш сабе жыццё завязаць. Я толькі памаўчала. Больш нам гаварыць не было аб чым.

Праз нейкі час я трапіла ў бальніцу. Ніколі дагэтуль не хварэла я, а вось цяпер здароўе здало. У палаце, што знаходзілася побач з маёй, ляжаў прыстойны нестары лётчык (ужо на пенсіі). Мы гаварылі з ім даволі часта. Я расказвала яму пра сваю бяду, і так прайшоў цэлы месяц. Мяне выпісалі з бальніцы, а праз два дні — тэлефон. І хто б падумаў? Звоніць гэты лётчык. Адкуль жа ў яго мой тэлефон? Аказваецца, папрасіў яго ў майго доктара. Ну, і просіць, каб сустрэцца. Я здзівілася: навошта? Але ён мне званіў так амаль штодзень і ўрэшце вымусіў спатканне. Мне падумалася: Бог з ім, пайду, раз сустрэнуся, скажу ўжо, што думаю, каб больш мне не званіў і галавы не дурыў. Пайшла, як на сваю бяду. Цяпер можна сказаць, што ўліпла. Вельмі хацеў бы ажаніцца са мною. Ён жа таксама ўдавец, у яго цудоўная кватэра, машына, грошы, не хапае толькі аднаго — жонкі. І так прыклеіўся да мяне, што проста стаю я на раздарожжы. Але ўсё ж прыходжу да вываду, што ўсё гэта не для мяне, бо калі б я выйшла замуж цяпер, то здрадзіла б свайму мужу. А як жа я магла б забыцца пра яго?! Ды і так усё роўна лепшага за яго не знайду...

**Таня**

Таня! Калі чалавек выходзіць замуж ці наогул пакахае кагосьці — гэта не абавязвае, што знойдзе ён абавязкова прыгажэйшага ці лепшага чалавека за мужа, які памёр. Гэта быў бы проста спосаб на адзіноцтва. Ты б не была адна, бо хаця і жывеш ты з сынам, то ў іх жа свае справы, яны маладыя, а ты напэўна адчуваеш сябе пры іх проста бабулькай. А магла б яшчэ быць жонкай... Ды толькі ва ўсім гэтым ёсць, як кажуць, адно „але": табе яшчэ думаць пра выйсце замуж рана! Яшчэ, напэўна, не загаіліся твае раны. Яшчэ твой муж прысутны з табою, яшчэ напэўна сніцца па начах. Можа, крыху пазней... Ды толькі вер, што людзі, якія запрапанавалі табе дажываць разам жыццё, напэўна мелі добрыя інтэнцыі і не хацелі цябе абразіць. Мужа свайго ты ўжо і так не ўваскрэсіш, а тваё жыццё мо крыху паружавела б...

**Сэрцайка**




## ЯК ПАДРЫХТОЎВАЦЬ ЦЕСТА

Каб дражджовае цеста атрымалася пульхным, усе прадукты павінны быць дастаткова цёплыя.

Каб дражджовае цеста падрасло, трэба ставіць яго ў месцы цёплым, але не занадта гарачым. Калі мы гэтага не дапільнуем, то яно будзе расці занадта хутка, а пасля ў духоўцы ападзе, і пірог ці кекс будзе плоскі.

Тэмпература ў духоўцы, у якой пячэм дражджовы пірог, не павінна быць адразу занадта высокая. На працягу першых 20 мінут пячэння нельга ў ніякім выпадку адкрываць дзверцы духоўкі. Калі ўжо цеста будзе амаль гатовае, трэба накалоць пірог тоненькай драўлянай палачкай ці запалкай: калі выцягнеце яе і яна будзе сухая, значыцца, пірог гатовы.

Бліны будуць смачнейшыя, калі ў цеста дададзім збіты бялок.

Цеста будзе лёгка раскатвацца, калі перад гэтым палажыць яно мінут 30-40.

Свежаспечаны пірог на парашку трэба рэзаць гарачым нажом, тады ён не будзе крышыцца.

Празмерная колькасць цукру робіць пірог занадта цвёрдым.

Каб цеста не прыгарэла, добра было б пад формачку насыпаць крыху солі або паставіць міску з вадой.

### ПІРОГ З ЯБЛЫКАМІ

На 2,5 кг пірага трэба ўзяць 7 шклянак мукі, па тры чвэрці шклянкі смятаны і цукру, 2 яйкі, 300 г яблык, 30 г дражджэй, алей, соль.

Рашчыніць цеста, ваду падагрэць да тэмпературы 30-36 градусаў, развесці ў ёй дрожджы і ўсыпаць палавіну мукі. Паставіць у цёплае месца на гадзіну. Калі яно павялічыць свой аб'ём у 1,5-2 разы і пачне крыху ападаць, дадаць соль, цукар, смятану, яйкі. Добра вымясіць цеста; яно павінна адрывацца ад рук. Яблыкі абабраць і ачысціць, парэзаць на дробненькія кавалкі і палажыць у цеста. І зноў паставіць на 1.5-2 гадзіны ў цёплае месца. Цеста выплажыць на змазаную алеем бляшку і зноў паставіць на мінут 40-45, каб падрасло, а пасля спячы яго ў духоўцы.

**Гаспадыня**

© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

# ЗОРКА

## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

БЕЛАРУСКАЯ КАЗКА

## ДЗЕДАВА ДАЧКА І БАБІНА ДАЧКА Ў ХАТЦЫ НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ



(Заканчэнне з папярэдняга нумара)

Як палезла ж яна — яна і каня выцягнула, яна і карэту, сукенкі і там багацця ўсялякага цэлы куфар; паставіла ў карэту, села і едзе. А ў гэтага бацькі і ў мачахі была сучка. Пад'язджае дзеўка, не надта ўжо далёка яна, а сучачка і пачала пець:

Цяў-цяў-цяў,
Дзедава дочка,
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка.
Цяў-цяў-цяў,
За гарою,
Цяў-цяў-цяў,
За другою.
Цяў-цяў-цяў
Колы бражджаць,
Цяў-цяў-цяў,
Сукні ляшчаць.

— А бадай цябе воўк, — мачаха кажа.

Кідзель ёй хлеба з маслам, каб ужо не пела гэта сучка. А сучачка зноў пяе гэту песню, ўжо і бліжэй. А як наблізілася, запела зноў:

Цяў-цяў-цяў,
Дзедава дочка,
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка.
Цяў-цяў-цяў,
За гарою,
Цяў-цяў-цяў,
Ужо ў дварышчы.

Глядзяць: аж засвяціла там проста ад яе. Тады мачаха:

— Ай-яй-яй. Во як, во... Куды ты яе завёз, недзе ўжо да нейкіх паноў?

— Дзе там. Ну, калі хочаш, дык і тваю завязу.

— Во, ды няўжо ж не завязеш?! Хутчэй збірайся — паедзем.

Дзедава дачка кажа:

— Не, мая мамка, не ўслужыць яна там, не ўбудзе, лепей няхай не едзе.

— Вось, ты толькі работніца. Нічога, патрапіць, калі ты ўжо ўбыла, то і яна зможа.

Ну вось, сабралася бабіна дачка, і павёз яе дзед. Павёз і таксама пасадзіў:

— Сядзі, дачушка, пайду дровы сеч, а ты тут сядзі.

Вось яна чакае, чакае гэтага бацькі, ды і няма яго. Чуе: стук-стук калодачка з дошчачкай ды венічак шась-шась. Так яна кажа:

— Калодачка — брась, а венічак — шась, мой татулька дроўцы сячэ. А тады шастала-шастала, стукала-стукала, ды ніхто не ідзе. Ужо стала яна баяцца, выйшла і таксама запела:

— Хто ў лесе,
Хто ў бару?
Прыйдзі, прыйдзі ка мне
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

Адпявае мядзведзь:

— Я ў лесе,
Я ў бару.
Прыйду к табе
Ноч начаваць,
Ноч каратаць.

А яна:

— Не хачу цябе,
Не люблю цябе,
Ты не мой татка,
Не мая мамка.

Не паслухаў, прысунуўся мядзведзь. Стукнуў лапай.

— Адчыніся, дзеўка-дзявіца, руса касіца.

— Не вялікі пан, можаш і сам!

Узяў адчыніў гэты пан, калі ён гэтакі невялікі.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, перастаў мне ножкі!

— Не вялікі пан, можаш і сам!

Узяў пераставіў. Тады зноў:

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, сцялі мне пасцельку!

— З чаго я пасцялю?

Пасцялі мне рад палення, рад камення, барану накрыцца, ступу пад галаву за падушку. Ну, і сама есці вары.

— А з чаго я табе звару?

— Улезь у правае вуха і ў левае вылезь, вось тады і зварыш.

Яна гэтак улезла, узяла зварыла гэтае кашы.

— Ну, тады будзеш званіць мне.

(Працяг на стар. 10)

Касусь Кірэенка

## ДАРОГА БАЦЬКОЎ

**Былінныя штурмы, паходы, —
Як полымя ў ззянні вякоў.
Запомнім, сябры, назаўсёды
Вялікія справы бацькоў.
Каб сёння і заўтра раслі мы, —
Вітаючы поспех дзянны,
Бацькі
Ад любімай Радзімы
Адбілі навалу вайны.
Усё, і пакуты, і страты,
За нас — за мяне і цябе,
Навек яны буры скарылі
І волі ўзнялі галасы,
І нам
Сваёй славай стварылі
Краіну шчаслівай красы.
Любыя вышыні ёсць крылам.
Ёсць праца любая рукам.
Надзейнаю, мужнаю сілай
Мы ўстанем
на змену бацькам.
Ці ў токары, ці ў касманаўты,
Ці ў творцы
Пашлюць нас гады —
У заўтра, вялікае заўтра
Наш позірк заўжды і заўжды.
Усюды ў жыцці з перамогай
Мы пройдзем, сям'я
дружбакоў,
Бо лепшая ў свеце дарога
Прад намі —
Дарога бацькоў.**

Васіль Вітка

## МАРОЗНЫМ ДНЁМ

**Хай дзеці спяць,
Не будзем іх трывожыць,
І мы гады прыгожыя ўспомнім.
Прасторны дзень...
І граюць, граюць сосны,
Напятыя між небам і зямлёю,
Як струны велічнай віяланчэлі,
І вецер
Не ўпраўляецца нацерці смык
жывіцай...**

**Гудок. Пара.
Не, мы не дзеці.
Не юнакі наіўныя — бацькі.
І за спакой дзяцей,
За іх жыццё, за шчасце
Гатовы мы аддаць ўсю кроў
да кроплі.**

**І калі мне не суджана вярнуцца,
Ты ім, як выраступь,
Пра гэты дзень успомні
І навучы любіць зіму, шчыглоў,
сініц
І слухаць, як над светам днём
пагоднім
Звініць сасна.**

(урывак)

## СУСТРЭЧА

Напэўна большасць з вас ведае, як блізка ад нас ляжыць горад Гродна (старажытная Гародня). Ад Беластока рукой падаць, не больш 80 км. І вось адной кастрычніцкай суботай вечарам мы з актрысай **Таццянай Мархель з Віцебскага Беларускага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа** наведалі вядомую беларускую паэтэсу **Дануту Бічэль-Загнетаву.** Яна працуе старшым навуковым супрацоўнікам у **Музеі Максіма Багдановіча.**

У музеі паэтэса якраз вяла заняткі з літаратурна-творчым дзіцячым гуртком, які існуе пры гродзенскім Палацы піянераў. Чатырохкласнікі з 25 сярэдняй школы прыйшлі сюды са сваім маладым настаўнікам **Анатолем Хілько.** Дзеці ўважліва слухалі беларускія песні ў выкананні заслужанай артысткі БССР **Таццяны Мархель.** Пасля самі паказалі сцэнку, развучвалі патрыятычны верш **Сяргея Сакалова,** дзяліліся ўражаннямі.

Я расказала ім пра „Зорку" і пра яе чытачоў. Каб ведалі, што і тут на Беласточчыне жывуць беларусы, іх родныя браты.

Пазнаёміліся мы і з адной дзяўчынкай, вучаніцай чацвертага класа, удзельніцай літаратурна-творчага гуртка Дануты Бічэль-Загнетавай. Называецца дзяўчынка Валя Крачкоўская і піша цікавыя вершы ўжо. Вершы яе пакуль што нідзе не друкаваліся. З тым большай прыемнасцю робім мы гэта ў „Зорцы".

**Ада Чэчуга**

### СНЕЖАНЬ

Ужо зіма і каля хаты
снег сыпле. А мароз
ужо такі, што выйдзеш з хаты
і чырванню палае нос.

Усё так чыста, бела, свежа.
З гары нясёмся між бяроз.
Папрацаваў старанна снежань
і елку з лесу нам прынёс.

### ВОСЕНЬ

Ходзіць восень па палях,
па балотах, па лугах.
Пэндзлікам махае,
фарбы падбірае.
Чырвоную, шэрую,
жоўтую, белую.
Жоўтай фарбай фарбавала
на дубах лістоў нямала.
А чырвонай — журавіны,
палахлівыя асіны.

(Працяг на стар. 10)

### ДАРАГІЯ ЧЫТАЧЫ!

**Пасля надрукавання вершаў і п'есы на школьную сцэну, мы і ў далейшым друкуем і будзем друкаваць падборку вершаў і песні, ды і іншыя матэрыялы, з думкай, што вы зможаце выкарыстаць іх, рыхтуючы ёлку ці іншае выступленне. Выкарыстоўвайце на вашай школьнай сцэне матэрыялы друкаваныя ў „Зорцы".**

## БЕЛАРУСКІЯ МУЗЫЧНЫЯ ІНСТРУМЕНТЫ




Народныя цымбалы адрозніваюцца ад класічных: яны даўжэйшыя і вузейшыя. А на адну ноту „працуюць" не тры, а 5 ці 8 струн, што ўтварае моцны гук. Палачкі да цымбалаў драўляныя і не абшываюцца скурай. Гэта дае спецыфічны гук. Цымбалы — лепшы сябар скрыпкі і дудзе.



© PDF: Kamunikat.org 2020 © Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

(Працяг са стар. 9)

## ДЗЕДАВА ДАЧКА І БАБІНА ДАЧКА Ў ХАТЦЫ НА КУРЫНАЙ НОЖЦЫ

Вось яна варыць таксама, усё таўчэ там, усё прыскварвае смачна. Падляцела мышка.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, дай кашкі, хоць мёнтачку аблізаць.

А тады мядзведзь:

— З кім там гаворыш?

— А во мышка прыляцела, палабыжка, і просіць кашкі.

— Дай мышцы па лабыжцы.

Лясь гэтай мышцы! Гэта мышка запішчала і ножкі ўверх задрала.

— Дзеўка-дзявіца, руса касіца, бяры званочак, звані.

І яна тут узялася за работу. У адным кутку як зазваніла, як трахнуў мядзведзь бараной — ужо чуць не мёртвая. У другі раз як даў ступай — нідзе ні духу, ні слуху. Злез, наеўся мядзведзь гэты і ляжыць. А дома чакаюць-чакаюць, чакаюць-чакаюць яе, ды няма.

Выправіла мачаха дзеда па сваю дачку.

— Што ж гэта ты не ідзеш? Пэўна, яна ўжо там заслужылася, будзе ўжо служыць, служыць, што і на дом забылася.

Вось сабраўся дзед ісці шукаць яе туды. Прыйшоў дзед у гэту хатку, глядзіць — ляжаць косці чалавечыя. Сабраў гэтыя костачкі ў торбу, звязаў, за плечы залажыў. Трэба ж несці дамоў. Ідзе дзед, а сучачка кажа:

Цяў-цяў-цяў,
Бабіна дочка,
Цяў-цяў-цяў,
Недалёчка.
Цяў-цяў-цяў.
За гарою,
Цяў-цяў-цяў,
За другою.
Цяў-цяў-цяў,
У торбачцы,
Цяў-цяў-цяў,
Зложаны костачкі.

Як трахне мачаха гэтай суччы таўкачом па назе і адбіла.

— Як ты брэшаш, як ты маеш адвагу так?

Ну што ж, заякала сучачка, пакацілася і зноў гэтаксама. Яна ёй і адну нагу адбіла, і другую, і ўсе ножкі паадбівала.

Уваходзіць дзед у дварышча з торбачкай. Глядзіць баба.

— Ай-ей, а што ж гэта такое, што ж ты тут нясеш?

— Во якая твая дачка, во як яна ўслужыла, во як яна зарабіла!

Божа мой, што таго крыку, што плачу бабе!

— Ну, ты не туды, напэўна, завёс.

— Ну што ж, куды б я ні завёз, не ўслужыла, не вярнулася...

### А·Д·Г·А·Д·А·Н·К·А



На касмадроме 14 касмічных караблёў (трохвугольнікі) і 28 цыстэрн з гаручым (кропкі). Трэба так раздзяліць касмадром, каб каля кожнага карабля было па дзве цыстэрны. Увага, усе часткі павінны быць аднолькавы.

(Працяг са стар. 9)

### ВОСЕНЬ

Іх цяпер і не пазнаць —
як агонь яны гараць.

### У ГРЫБЫ

Ужо грыбы растуць, сябры,
у яловым гушчары.
Уставайце ранкам,
з'ешце абаранка
і бярыце кошыкі,
вядзерцы і ножыкі.
Набярыце там грыбкоў,
смачненькіх баравікоў.
І груздоў не прамініце,
сыраежак сабярыце.
Будзе смачны ў нас абед.
Падсілкуемся як след.

### ЛЕТА

Лета, лета, лета!
Сонейкам зямля сагрэта.
Цвітуць васількі, рамонкі.
І птушкі спяваюць звонка.

Сінія званочкі звоняць.
Дзеці весела гамоняць.

**Валя Крачкоўская, 4 клас, Гродна**

— Бо яны цёпла адзеты.

*

На ўроку хіміі настаўнік пытаецца:

— У чым распускаюцца тлушчы?

Вучань:

— У каструлі.

*



**Пеця выбраўся на цёплыя моры ў краіну многіх астравоў. Выбраў адзін, як яму паказалася, вельмі прытульны, каб на ім спакойна пазагараць. І што аказалася?...**

## Вясёлы куточак

Настаўнік:

— Пеця ідзі да дошкі.

З задняй парты ўстае вучань і кажа:

— Пеця спіць і прасіў яго не будзіць.

*

Настаўнік:

— Чаму птушкі зімой не мерзнуць?

Вучань:

## Нашы песні

## ЛІТАРЫНКА

**Музыка Васіля Раінчыка**
**Словы Рыгора Барадуліна**

Весела, умерана

Літары ад А да Я —
Пчолы з дружнага рая,
Носяць мёд у соты ведаў,
Просяць каб усё ты ведаў.

Прыпеў:

Літарынка, літарынка,
Літарка прыветная,
Ты хітрынка, ты смяшынка,
Ты сцяжынка светлая.
Літарынка, літарынка,
Радасная літара,
Ты дачушка-весялінка
Азбукі дапытлівай.

Ведай, да навук ахвочы,
Азбука — вучэння вочы.
Азбука ад А да Я —
Спадарожніца твая.
У краіну ведаў шлях
Пачынаем па складах.

Прыпеў:

Літарынка, літарынка...

## Вучнёўская творчасць

### ЗІМА

Гэй, зіма,
Ты да нас прыйшла.
Мы цябе чакалі,
На двор выбягалі,
Мы з табой гулялі.
Песенкі спявалі,
Бо мы цябе любім
Зіма дарагая!

**Эва Агіевіч, вуч. IV кл. Школа ў Орлі**

* * *

Дзяўчаткі са школы ў Чаромсе-вёсцы любяць і ўмеюць маляваць. Свае малюнкі да казкі „Пяць братоў-цудадзеяў" прыслалі „Зорцы" Анэта Юзвовіч (яе адзін малюнак ужо быў у „Зорцы"), Даротка Кердалевіч, Эва Салінская і Алінка Шатыловіч. Сардэчнае дзякуй.

Змяшчаем два малюнкі:



Мал. Даротк Кердалевіч, Чаромха-вёска.



Мал. Алінкі Шатыловіч, Чаромха-вёска.

© Інтэрнэт-версія: Kamunikat.org 2020

Без песні — хоць трэсні!

## ЛЯ КРЫНІЦЫ




*Верш і музыка*
*Янкі Насуты*

Ой, ляцелі гусі
Раніцою з броду.
З чыстае крыніцы
Брала Вера воду.

На кані буланым
Цераз луг-даліну
Ехаў хлопец сцежкаю,
Папрасіў дзяўчыну:

— Любая дзяўчына,
Чараўніца-дзеўка,
Напаі каня мне
З поўнага вядзерка!

— Памажы, каханы,
Зачарпнуць з крыніцы.
Хіба ж для буланага
Мне шкада вадзіцы?

Чэрпаў хлопец воду
Для каня, для Веры.
Бачыла ўсё маці,
Прыадкрыўшы дзверы.

Ой, ляцелі гусі
Зноў да свайго броду.
У хлопца закаханая
Несла Вера воду.

(Ганарар на Музей)



# НІЎКА

### ПРЫДУМАЦЬ ПРЫЧЫНУ

— Пеця, ты, напэўна, ведаеш, што трэба зрабіць, каб звярнуцца да настаўніцы і папрасіць у яе дазволу выйсці з класа?

— Трэба прыдумаць прычыну.

### ЦІКАЎНЫ

— Мікола, — звяртаецца сусед да суседа, — у цябе такія вялікія вусы. Яны не перашкаджаюць есці ці піць?

— Пачастуй — пабачыш, — адказаў той.

### СУЧАСНАЕ КАХАННЕ

Сядзяць увечары пад вярбою двое закаханых. Яна яго пытае:

— Мілы, ты мяне кахаеш?

— Вельмі!

— А пасля вяселля ты мне, як і цяпер будзеш падарункі рабіць?

— Вядома.

— І купіш мне імпартныя боцікі?

— Угу.

— І такі кажушок, як у Алесі?

— Угу.

— І залаты гадзіннік?

— Мабыць, не. Бацькі мне столькі грошай не дадуць.



— Раз... два... узялі! Раз... два... узялі!

### ПРЫГОДЫ ЗАДРЫПКОЎСКАГА

— Нядаўна я ледзь не памёр ад страху, — гаворыць пан Задрыпкоўскі сваім сябрам у адной кампаніі. — Уявіце сабе, іду я лесам і раптам бачу — змяя!

— І што?! — ускрыквае адна з жанчын.

— Нічога. Прыглядзеўся лепей і ўбачыў, што гэта ўсяго толькі звычайная палка.

— Не разумею, чаму вы ў такім выпадку спужаліся? — пытае тая ж дама.

— Таму, што палка, якую я схапіў, каб забіць гэту жывёліну, аказалася змяёй!



**Ён заўсёды там, дзе цяжка, але нікому ад гэтага не лягчэй.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

**Слуга** (суседу свайго гаспадара): — Містэр Джонс перадае вам прывітанне і просіць паведаміць, што ён застрэліў свайго сабаку, які выццём і брахannем не даваў вам спаць.

**Сусед:** — Перадайце маю ўдзячнасць містэру Джонсу і спытайце яго, ці не будзе ён так ласкавы, каб атруціць яшчэ сваю дачку ці хоць бы спаліць яе піяніна.

*

У аўтобусе малады чалавек уступае сваё месца пажылой даме:

— Сядайце, мадам.

— Дзякую, мсье, сядзіце. Яшчэ настаіцеся, калі састарэецеся.

*

— Якія прыгожыя ў вас зубы, фрэкен!

— Гэта спадчына маёй маці.

— Як здарова, што яны вам падышлі!

**Баечкі**

### ВЫХАВАЎ

Пры дзецях з лаянкаю брудная
На ўсіх кідаўся наш Яўхім.
А сёння заўважаюць людзі:
Які Яўхім — такі і сын.

### РУКА

Напэўна, здзівіцеся вы:
Як дацягнуўся слуп да неба?
Хаця ён быў без галавы,
Затое — меў руку, дзе трэба...

**Сяргей Дзерышаў**

**З „Весніка Задрыпоніі"**

### ЗА ЗДАРОВЫ БЫТ

Двойчы была аштрафавана за самагонаварэнне жыхарка вёскі Альховыя Ночкі Таццяна Мармыль. Суровыя меры сябе поўнасцю апраўдалі. Цяпер Таццяна Мармыль гоніць выключна безалкагольны самагон.

### ПАРАДЫ ПАЛЯЎНІЧЫМ

Калі ў патроны са шротам пакласці соль, перац і лаўровы ліст, то пры гатаванні дзічыны можна абысціся без гэтых спецый.




### РЭАРГАНІЗАЦЫЯ

— Гавораць, наш дырэктар рыхтуе вялікае скарачэнне кадраў...

— Нас гэта не датычыцца. Ён пасварыўся з жонкай і хоча цяпер звольніць усіх яе сваякоў.



# Курёзы

### ПАКАРЭННЕ МАНБЛАНА

Не так даўно споўнілася 200 год пакарэння Манблана. На самым Манблане і дзесяці найбліжэйшых вяршынях была наладжана ілюмінацыя. Ігралі аркестры. Спартсмены выконвалі акрабатычныя трукі — напрыклад, спуск з гары на адной лыжы. Ля падножжа гары бойка гандлявалі хусткамі з фігурамі першых герояў, якія ўвайшлі на Манблан — самую высокую гару Еўропы.

За два стагоддзі Манблан бачыў шмат рэкордаў. У апошнія гады іх таксама нямала. У 1975 годзе — спуск на лыжах за 8 гадзін 10 мінут (замест звычайных 15 гадзін.) У 1955 годзе на вяршыню ўпершыню прызямліўся верталёт. Праз шэсць год на яе сплaніравалі трое парашутыстаў. У 1973 годзе — першы палёт на дэльтаплане з даху Еўропы. У 1984 годзе — спуск на роварах. А потым і ў пузыры з пластыку. У гонар юбілейнага года італьянскі альпініст прагацяваў на вяршыне 40 дзён.




**Калі лаўры не даюць спаць, звярніся да лекара.**

© PDF: Kamunikat.org 2020